У наступным нумары:

**Куды пайсьці, куды падацца?**
Адукацыя і рынак працы: погляд экспэртаў

**Нястрашны Выкладчык**

**Летнія Вандроўкі па Беларусі**
Месцы, якія варта наведаць




У гэтым нумары:

Нашыя людзі на "Мотаршоў"

Атамная энэргетыка ўжо памерла

Фідо

Пабачымся!!!..............................АДГАРНІ!!!

# Зьмест




**Студэнцкая думка**
**N 5 (66) 2001 г.**

Заснавальнік:
**грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне беларускіх студэнтаў"**

Выдавец:
**рэдакцыя "Студэнцкай думкі"**

Рэдактар
**Ірына Віданава**

Намесьнік рэдактара
**Мікола Шакель**

Стыль і карэктура
**Алена Беляеўская**

Дызайн Вокладкі, Вёрстка й афармленьне
**Аляксандар Мазанаў**

Малюнкі
**Натальля Лазука**

**Адрэса рэдакцыі:** вул. Дарашэвіча, 4-2, 220013, г. Менск
**Тэлефон рэдакцыі:** (017) 213-22-19
**Пэйджэр (для рэклямадаўцаў):** (017) 211-85-85, абанэнт 6675
**Адрэса для допісаў:** 220030, г. Менск-30, п/с 90
**Адрэса ў Інтэрнэце:** www.studumka.com
**E-mail:** dumka@bsa.org.by

Часопіс выходзіць з 1924 г. Зарэгістраваны ў Дзяржаўным камітэце па друку Рэспублікі Беларусь. Пасьведчаньне № 1296 ад 13.04.1999 г.

Меркаваньні аўтараў часопісу не заўсёды супадаюць зь меркаваньнем рэдактара і рэдакцыі. Нягледзячы на тое, што ў працэсе падрыхтоўкі нумару фактычныя дадзеныя строга кантралююцца, рэдакцыя не нясе адказнасьці за дакладнасьць апублікаванай інфармацыі, а таксама за рознага кшталту наступствы, зьвязаныя з апублікаванымі матэрыяламі.





*Надрукавана ў ДВПП "Прамдрук", 220000, г. Менск, Чарняхоўскага, 3. Ліцэнзія ЛП № 126 ад 30.12.1997 г.*
*Фармат 60x84 1/8*
*Папера афсэтная 65 г/м²*
*Падпісана ў друк 30.05.2001*
*Замова № 723*
*Наклад 2000 асобнікаў*
*Кошт свабодны*


# Рэдактарскі ліст

Прывітаньне, шаноўныя! Што, цяжкавата вам на іспытах даводзіцца? Дык адпачніце хвілінку, разгарніце "CD". Гэта нашмат прыемней, чымся корпацца ў канспэктах, расшыфроўваючы ўласныя (а часьцей – цалкам незнаёмыя) загагуліны. Іспыты пачакаюць. Нехта вельмі разумны сказаў, што праца – гэта сьвятое, таму ня варта да яе дакранацца.

У гэтым нумары вы зможаце азнаёміцца з вынікамі апытаньня, праведзенага сярод берасьцейскіх студэнтаў на прадмэт ужываньня алькаголю дый іншых "лішкаў нехарошых". І ведама ж, студэнт без каханьня – што пантофлік бязь дзіркі. Тое галоўнае пачуцьцё дасьледуе псыхоляг-аматар і проста вельмі добрая дзяўчына **Вольга Цяцёркіна**. А **Марыне Мікуліч** усё дома не сядзіцца. Гэтым разам яна наведала Бэрлін і Стакгольм. Што яна там рабіла? Чытайце – даведаецеся. Не адстаюць ад Марыны і шчасьлівыя ўладальнікі карткі EURO<26. Яны ня толькі па Эўропах гойсаюць, але й прыемна бавяць час у менскіх клюбах. Пра гэта – у матэрыялах **Тацяны Сапегі** і **Андруся Клікунова**.

А вось нашага намесьніка рэдактара мы гэтым разам заперлі – куды б вы думалі? – на "Мотаршоў". Небарака, ледзьве адтуль выбраўся. Хаця яму, здаецца, спадабалася.

...І ўсё-ткі не ўтрымаемся, павіншуем усё беларускае студэнцтва з надыходам сэсіі (не падумайце нічога благога, мы зусім ня зьдзекуемся: у саміх тая ж бяда). Калі задумацца, што б мы бяз сэсіі рабілі? Сталі б лянымі й тлустымі. А так – хоць нейкая разнастайнасьць. Дый адрэналін увесь час у крыві. Асабліва ж хацелася б павіншаваць пяцікурсьнікаў: яны ўжо прайшлі праз гэтае пекла. Наперадзе абарона дыплёму і – вольнае жыцьцё! Зычым без праблемаў знайсьці сваё ў гэтым жыцьці месца і, натуральна, не забывацца на "CD". Разам весялей!



# Эўрапейскі моладзевы парлямэнт


Адна са шматлікіх цэркваў Стакгольму

*Ці далёка ад нас да Стакгольму? Нейкая там тысяча кілямэтраў... Аднак гэтыя кілямэтры падзяляюць два цалкам адрозныя сусьветы: Беларусь зь ейнай пераходнай эканомікай, "зялёнай" дэмакратыяй ды людзьмі, якія стаміліся спадзявацца на лепшае, і Швэцыю, што спакойненька спажывае сабе сьпелыя плады дэмакратыі й разьвітай эканомікі. Аднак, нягледзячы на ўнушальную розьніцу ва ўзроўнях разьвіцьця, у дзьвюх краінаў усёткі ёсьць нешта агульнае. І гэта ня толькі прырода, якая, канечне, вельмі падобная (з адзіным "але": швэдзкая прырода надзіва дагледжаная, што стварае адчуваньне казачнасьці). Швэцыю й Беларусь злучае нешта большае. А менавіта Эўропа, калі разумець яе як геаграфічны й культурны канцэпт. Зрэшты, шматаблічная Эўропа адной Швэцыяй не вычэрпваецца. Яна злучае Беларусь зь іншымі 25 эўрапейскімі краінамі (Ірляндыяй, Турцыяй, Швайцарыяй, Харватыяй і г.д.), прадстаўнікі якіх і сабраліся ў нардычным Стакгольме 23 сакавіка – 1 красавіка 2001 году на чарговую сэсію Эўрапейскага моладзевага парлямэнту.*

Эўрапейскі моладзевы парлямэнт уяўляе сабой імітацыю працы ў парлямэнце – Эўрапейскім ці нацыянальным – і ладзіцца з 1987 году ў розных гарадох Эўропы. У адрозьненьне ад сапраўднага Эўрапейскага парлямэнту, дзе палітычныя партнэры старанна адбіраюцца і кожны крок узважваецца, Эўрапейскі моладзевы парлямэнт перш за ўсё скіраваны на інтэграцыю паміж людзьмі і таму мкнецца злучыць моладзь ня толькі Эўрапейскага Зьвязу (ЭЗ), але й тых краінаў, якія ёсьць кандыдатамі на ўступленьне ў ЭЗ альбо складаюць неад'емную частку эўрапейскае культуры. Прыемна, што ў вачох эўрапейцаў Беларусь ёсьць адной з такіх краінаў: з 1999 году дэлегацыі беларускіх школьнікаў і студэнтаў бяруць удзел у сэсіях Эўрапейскага моладзевага парлямэнту.

Праца моладзевага парлямэнту будуецца на добра адпрацаванай за 15 год схеме. Першыя два дні адводзяцца так званаму *team-building*'у, падчас якога будучы камітэт (а камітэтаў, прыкладам, на Стакгольмскай сэсіі было 15, прычым у кожны ўваходзілі 10-16 прадстаўнікоў зусім розных краінаў) гуляе ў самыя разнастайныя гульні. Менавіта гульні мусяць задзіночыць людзей, зрабіць зь іх адзіную каманду, здольную разам знаходзіць аптымальнае рашэньне. Наступныя чатыры дні прысьвячаюцца інтэнсіўнай камітэцкай працы, вынікам якой павінна стаць рэзалюцыя на загадзя вызначаную тэму. Скажам, адна з тэмаў гучыць наступным чынам: "Пытаньне пашырэньня ЭЗ: вольны перасоў людзей супраць нягнуткасьці працоўнае сілы й іміграцыі з краінаў, што не ўваходзяць у ЭЗ". Гучыць няпроста, ці ня так? Існуюць самыя разнастайныя кшталты й стратэгіі камітэцкае працы: ад жорсткага дэбатаваньня да спакойнага ўзважваньня ўсіх варыянтаў, ад разьбіцьця камітэту на больш дробныя групы, кожная зь якіх вырашае сваю частку пытаньня, да сумеснага абмеркаваньня ўсіх пытаньняў і падтэмаў... Адзінае патрабаваньне – да канца чацьвертага дня павінна быць напісаная рэзалюцыя на абедзьвюх афіцыйных мовах ЭЗ, ангельскай і францускай. За працай камітэту сочыць *chairperson*, што накіроўвае дыскусіі ў патрэбнае рэчышча.


Аўтар на фоне Каралеўскага палаца


Рэкрэацыйны цэнтар Sanga-Saby

Сама рэзалюцыя па аб'ёме не перавышае аднаго друкаванага аркушу фармату А4 (з абодвух бакоў) і мае вельмі простую структуру: *introductory clauses*, дзе сьцьвярджаюцца пасылкі, зь якіх сыходзіць камітэт, ды *operative clauses*, дзе "заканадаўцы" даюць рэкамэндацыі й прапануюць пэўны плян дзеяньняў у той ці іншай сытуацыі. Але колькі часу (й нэрваў!) ідзе на тое, каб улічыць усе пазыцыі, спалучыць іх у адзінай фармулёўцы, скласьці з асобных частак агульную, ва ўсіх сэнсах эўрапейскую рэзалюцыю: яна ж адлюстроўвае меркаваньне моладзі ўсёй Эўропы!

У працэсе дэбатаў могуць вынікаць вельмі сур'ёзныя разыходжаньні ў бачаньні таго ці іншага пытаньня. Вось тады й разумееш, чаму міжнародныя перамовы, здараецца, заходзяць у тупік: у людзей з розных краінаў часам зусім адрозны паўсядзённы, эканамічны й палітычны досьвед. Напрыклад, адзін са швайцарскіх дэлегатаў, што працаваў у камітэце па культуры, моладзі, адукацыі й СМІ, з самага пачатку прастадушна спытаўся: "А навошта абмяркоўваць пытаньне доступу ў *Internet* ва ўсіх школах, калі ў нас, у Швайцарыі, такой праблемы ўжо даўна не існуе?" Гэткая абмежаванасьць у поглядах тлумачыцца надзвычай проста: па-першае, багаты беднага не разумее; па-другое, Швайцарыя, з прычыны свайго нэўтралітэту й няўдзелу ў шматлікіх эўрапейскіх ініцыятывах, часьцяком апынаецца замкнёнай на сабе. Але й іншыя, больш адкрытыя эўрапейскія краіны – а дакладней, моладзь зь іх – часам выяўлялі пэўную аднабаковасьць мысьленьня, калі, скажам, гутарка заходзіла пра пашырэньне ідэяў дэмакратыі. Хай не крыўдуюць мае калегі, аднак заходняя моладзь шчыра верыць, што ўвядзеньня курсаў па дэмакратыі ў школках будзе дастаткова й што школьнае кіраўніцтва адразу ж падтрымае гэткую ініцыятыву... Што ж, відаць, дэмакратычна й эканамічна разьвітым краінам складана азірнуцца год на 50 назад і аднавіць шлях, які ім давялося прайсьці, каб дапяць сёньняшняга стану. Людзі хутка прывыкаюць да добрага. Але ніколі няма гарантыі, што дабрабыт будзе вечны. Таму такія сустрэчы, як Эўрапейскі моладзевы парлямэнт, ёсьць узаемакарыснымі – яны дазваляюць па-новаму


Стакгольм





СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • травень 2001

## Стан рэчаў



Марына Мікуліч і пасол беларускай дэлегацыі (Стакгольм)

ўбачыць сытуацыю прадстаўнікам ня толькі краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй, але й Заходняй Эўропы.

Пасьля чатырох дзён напружанае – ці ня вельмі – камітэцкае працы зьбіраецца Генэральная Асамблея. Гэта два найбольш адказныя дні парлямэнту. На Генэральнай Асамблеі ўсе 15 камітэтаў (камітэт па будучыні, па правах чалавека, па сельскай гаспадарцы, па досьледах і тэхналёгіях і г.д.) абараняюць свае рэзалюцыі. І кожная абарона сканчваецца ўсеагульным галасаваньнем, па выніках якога рэзалюцыя прымаецца альбо не. Вынік Стакгольмскае сэсіі – 13 зь 15 дакумэнтаў прынятыя, і зборнік рэзалюцыяў накіраваны ў "сталы" Эўрапейскі парлямэнт.

З усяго вышэйсказанага вынікае, што Эўрапейскі моладзевы парлямэнт, нягледзячы на ўсю "моладзевасьць" у назве, зусім ня жартачкі. Пацьверджаньнем таму – ня толькі тэмы рэзалюцыяў і шырокі міжнародны розгалас, але й ганаровыя госьці, а таксама месцы "дысляцыі" парлямэнту. Да прыкладу, цырымонія адкрыцьця ладзілася ў слыннай стакгольмскай ратушы, дзе штогод уручаюцца Нобэлеўскія прэміі. На цырымоніі прысутнічала нават сама прынцэса Вікторыя – прадстаўніца шведзкае каралеўскае сям'і. Генэральная Асамблея, на якой заслухоўваліся камітэцкія рэзалюцыі, зьбіралася ў сьценах Шведзкага парлямэнту, а дэлегатаў сваёй прысутнасьцю (і нават невялікімі прамовамі на тэму агульнае эўрапейскае будучыні) ушанавалі сьпікер (дакладней, сьпікерка) Шведзкага парлямэнту, а таксама адзін зь сябраў Эўрапарлямэнту. Разьвітальная вечарына, на якой абавязковай умовай была вечаровая сукня для дзяўчат і гарнітур з бабачкай для хлопцаў, праходзіла ў Музэі сучаснага мастацтва. На жаль, не ў атачэньні працаў вялікіх мастакоў XX стагодзьдзя, але ў непасрэднай блізкасьці да іх – у рэстарацыі музэя.

Няма сумневу, той факт, што Беларусь прымаюць на роўных у эўрапейскай (хай нават пакуль моладзевай) эліце, шмат пра што сьведчыць і мае немалое значэньне для эўрапейскае будучыні Беларусі. Застаецца спадзявацца, што "эўрапеізаванасьць" Беларусі на моладзі ня спыніцца.

**_Марына Мікуліч, беларускі дэлегат на Стакгольмскай сэсіі Эўрапейскага моладзевага парлямэнту_**

*P.S. Па дадатковую інфармацыю пра Эўрапейскі моладзевы парлямэнт зьвяртайцеся: тэл. (017) 258-06-59 (Марына Мікуліч), e-mail: mimaris@usa.net*








## Падзея

# Падымі сваю стыпэндыю!

*Рэспубліканскае моладзевае грамадзкае аб'яднаньне "Задзіночаньне Беларускіх Студэнтаў" 25 красавіка ў 13.30 ля будынку Міжнароднага экалягічнага ўнівэрсытэту імя Сахарава зноў падымала стыпэндыю студэнтаў.*

Першая такая акцыя прайшла ля інтэрнатаў БДПА за тыдзень да таго, 18 красавіка. Перашкоды тады ўтварала ня толькі служба аховы, што прагнала арганізатараў. Старшыню суполкі БДПА Касю Бохан выклікалі да сябе на размову супрацоўнікі адмысловага аддзелу КДБ у БДПА. Дзяўчыне пагражалі, што за актыўныя грамадзкія дзеяньні яна можа быць выключаная з навучальнай установы. Таксама былі спробы ўціску праз бацькоў, якіх тэрмінова выклікалі з працы. Падставаў для выключэньня Касі Бохан у адміністрацыі БДПА няма. Пагрозы так і застаюцца пагрозамі.

А 25 красавіка сваю стыпэндыю падымалі студэнты МЭУ. Гэты ўнівэрсытэт лічыцца адным з самых дэмакратычных у нашай краіне. Студэнты вельмі актыўна бралі ўдзел у акцыі, больш за 20 навучэнцаў здолелі падняць сабе стыпэндыю (рэкорд – у 80 разоў!). Шаснаццацікілаграмовую гіру, якая й сымбалізавала стыпэндыю (кошт яе прыкладна роўны самай высокай стыпэндыі), падымалі нават дзяўчаты. Выкладчыкі, што праходзілі побач, усьміхаліся – мабыць, таксама разумелі, што ў наш час студэнты могуць павялічыць стыпэндыю толькі сваімі ўласнымі намогамі.

*Акцыі «Падымі сваю стыпэндыю» будуць ладзіцца кожную сераду да канца навучальнага году. А любы ўціск, тым больш такі неабгрунтаваны, як у выпадку з БДПА, ЗБС не пакіне без увагі. "Мы не дазволім запужваць сябраў нашае арганізацыі", – заявіла старшыня прэс-службы ЗБС Аксюта Кашкевіч.*


Здымак прэзэнтаваны прэс-службай ЗБС

# Стыпэндыі Chevening для навучаньня ў Ангельшчыне

*Гэтыя стыпэндыі прадугледжаныя для аплаты кошту навучаньня ў Ангельшчыне на працягу 3-12 месяцаў для грамадзянаў Расейскай Фэдэрацыі і Беларусі. Стыпэндыяты адбіраюцца на конкурсавай аснове. Стыпэндыі выдаюцца Міністэрствам замежных справаў Брытанскай Садружнасьці і прызначаюцца для працягу навучаньня па спэцыяльнасьцях: міжнародныя зносіны, сродкі масавае інфармацыі, мэнэджмэнт, юрыспрудэнцыя, эканоміка, гарадзкое плянаваньне, дзяржаўнае кіраваньне (улучаючы мэнэджмэнт аховы здароўя, экалёгію, тэлекамунікацыі). Кандыдаты на атрыманьне гэтых стыпэндыяў павінны распавесьці ў сваіх заявах, якім чынам іхнае навучаньне ў Ангельшчыне можа садзейнічаць зьменам у іх роднай краіне.*

## Стыпэндыі Chevening Queen's Awards

Яе Вялікасьць Каралева абвясьціла гэтыя стыпэндыі ў часе свайго афіцыйнага візыту ў Расею ў 1994 г. Queen's Awards прапануюць фінансаваньне асабістых дасьледчыцкіх праектаў ці стажыровак у дадатак да пакрыцьця ўсіх коштаў навучаньня. Кандыдаты на атрыманьне Queen's Awards павінны мець выдатныя акадэмічныя посьпехі і актыўна ўдзельнічаць у грамадзкім жыцьці.

## Як падаць заяву

Кандыдаты мусяць быць грамадзянамі Расейскай Фэдэрацыі ці Беларусі, з датай нараджэньня пасьля 1 верасьня 1967 году. Яны павінны мець дыплём аб вышэйшай адукацыі і выдатна размаўляць па-ангельску. Усе заявы падаюцца на афіцыйным блянку. Да заявы неабходна прыкласьці дзьве рэкамэндацыі, ксэракопіі ўнівэрсытэцкіх дыплёмаў і выпіску адзнакаў з за-ліковай кніжкі. Заявы лепей за ўсё дастаўляць асабіста ці адпраўляць заказной поштай.

## Адбор стыпэндыятаў

Працэдура адбору стыпэндыятаў праходзіць у чатыры этапы.

1. *Папярэдні этап.* Правяраецца паўната запаўненьня заявы. Запоўненыя не да канца заявы вяртаюцца кандыдату.

2. *Рэцэнзаваньне заяваў.* Заявы рэцэнзуюцца, у выніку чаго адбіраюцца кандыдаты на інтэрвію.

3. *Інтэрвію й тэст.* Абраныя кандыдаты будуць праходзіць інтэрвію на ангельскай мове ў лістападзе-сьнежні. Кандыдаты, якія пасьпяхова пройдуць інтэрвію, будуць трымаць іспыт у ангельскай мове (IELTS). Інтэрвію ладзіцца ў Маскве й Санкт-Пецярбургу. Брытанская Рада кампэнсуе кошт праезду цягніком да гораду, дзе адбудзецца інтэрвію, для кандыдатаў, запрошаных на яго (выдаткі на пражыцьцё й харчаваньне кампэнсавацца ня будуць).

4. *Фінальны адбор.* Паперы кандыдатаў, вынікі інтэрвію й моўных тэстаў разглядаюцца Радай, якая абірае стыпэндыятаў і паведамляе кандыдатам вынікі конкурсу.

## Выбар месца навучаньня

Калі Вам запрапанаваная стыпэндыя, а Вы ня ведаеце, у якім унівэрсытэце жадаеце навучацца, дарадца па пытаньнях адукацыі парэкамэндуе найлепшыя для Вас курсы. Калі Вы ўжо абралі ўнівэрсытэт, і ён зьяўляецца вельмі вядомым альбо тэрмін прыёму заяваў сканчаецца рана, Вы мусіце даслаць сваю заяву непасрэдна ва ўнівэрсытэт, каб мець гарантаванае месца. Калі ласка, майце на ўвазе, што сам Брытанская Рада ня можа гарантаваць Вам месца ў абраным унівэрсытэце, бо тэрмін прыёму заяваў для навучаньня ў некаторых ВНУ сканчаецца рана і некаторыя курсы карыстаюцца надзвычайнай папулярнасьцю. Калі Вы самі жадаеце высьветліць, якія брытанскія курсы ці ўнівэрсытэты падыдуць Вам найлепш, Вам трэба наведацца ў найбліжэйшы офіс Брытанскае Рады.

## Памер стыпэндыі

Тыповая стыпэндыя можа пакрываць кошт міжнародных пералётаў, поўную плату за навучаньне й кошт пражыцьця на пэрыяд да 12 месяцаў. Памер стыпэндыі – ня большы за 20000 лібраў (ангельскіх фунтаў стэрлінгаў) на чалавека.

***2000/2001 акадэмічны год: 40 стыпэндыятаў з Расеі ў дадзены момант навучаюцца ў Ангельшчыне.***

***2001/2002 акадэмічны год: прызначаныя каля 50 стыпэндыяў. Адборачны пэрыяд ужо прайшоў, канчатковае рашэньне было прынятае 31 сакавіка 2001 году.***

***Пэрыяд падачы заяваў для навучаньня ў Ангельшчыне ў 2002/2003 акадэмічным годзе распачнецца 1 чэрвеня 2001 году.***

Па больш падрабязную інфармацыю зьвяртайцеся ў офіс Брытанскае Рады ў Маскве ці ў найбліжэйшым да Вас горадзе.

**Chevening Scholarships, The British Council, BIL,**
**Ul. Nikoloyamskaya 1,**
**Moscow 109189**
**Tel. (095) 234-0201, 234-0236**
**Fax (095) 234-0205**
**E-mail:**
**bc.moscow@britishcouncil.ru**

**Chevening Scholarships, The British Council,**
**Biblioteka im. Mayakovskogo,**
**Naberezhnaya reki Fontanki 46,**
**St. Petersburg 191025**
**Tel. (812) 325-6074**
**Fax (812) 325-6073**
**E-mail:**
**bc.stpetersburg@britishcouncil.ru**

■



# Творчай моладзі трэба дапамагаць!

*Неяк рэдакцыі "CD" стала вядома, што ў Берасьці існуе надзвычай цікавая арганізацыя – Цэнтар сацыяльнай дапамогі творчай моладзі "Інтэлект". Натуральна, мы адразу вырашылі туды затэлефанаваць.* ***Старшыня Рады Цэнтру Натальля Дунаеўская*** *ласкава пагадзілася выслаць факсам (што б мы рабілі без таго цудоўнага прыстасову!) сюю-тую інфармацыю пра сваю арганізацыю. І вось што яна нам паведаміла.*

Ідэя стварэньня Цэнтру зьявілася ў сувязі з тым, што ў нашым грамадстве ў дапамозе маюць патрэбу ня толькі слабыя, сацыяльна неабароненыя слаі насельніцтва, але й творчыя людзі, таленавітая моладзь, ад якой залежыць будучыня Беларусі.

Такім чынам, Цэнтар сацыяльнай дапамогі творчай моладзі "Інтэлект" афіцыйна быў зарэгістраваны 5 траўня 1999 году. Прыярытэтнымі накірункамі працы Цэнтру зьяўляюцца:

- інфармацыйнае забесьпячэньне моладзі, неабходнае для рэалізацыі творчага патэнцыялу ў галіне адукацыі, навукі, культуры, аховы зда-роўя, сродкаў масавае інфармацыі, права, рынкавае эканомікі;
- фармаваньне здаровага ладу жыцьця моладзі;
- арганізацыя кансультатыўнае дапамогі творчай моладзі, у тым ліку псыхалягічнай і юрыдычнай.

У лістападзе 1999 году праграма Цэнтру "Інтэлект" на конкурсавай аснове атрымала фінансавую падтрымку Альянсу "Каўнтэрпарт". У рамах гэтае праграмы ладзілася праца па выяўленьні праблемаў алькагольнай, наркатычнай і тытунёвай залежнасьці сярод студэнцкае моладзі, псыхолягі, нарколягі й псыхатэрапэўты аказвалі кансультатыўную дапамогу тым, хто мае ў ёй патрэбу. Асноўная частка праграмы была зарыентаваная на правядзеньне прафіляктычнае працы сярод моладзі праз інфармацыйна-адукацыйныя мерапрыемствы.

Натуральна, для правядзеньня прафіляктычнае працы аднаго году недастатковa. Таму перад тымі, хто зьдзяйсьняў праграму, разьлічаную на адзін год, ставілася задача зацікавіць у далейшай дзейнасьці гэткага кшталту аддзелы выхаваўчае працы ВНУ, а таксама саміх студэнтаў.

Надзённасьць праблемы прызнаюць і дзяржаўныя органы. Пра гэта сьведчыць прыняцьце дзяржаўнае праграмы па прафіляктыцы алькагольнае, наркатычнае й тытунёвае залежнасьцяў. Толькі ў кожнай праграме мусяць быць закладзеныя рэальныя магчымасьці яе ажыцьцяўленьня. Але пра якія ж магчымасьці можна казаць, калі на 3-5 тысячаў студэнтаў даводзяцца адзін-два псыхолягі, адзін сацыяльны пэдагог?

Адсутнічаюць навуковыя сацыялягічныя досьледы, якія дазволілі б выявіць рэальную карціну алькагольнае ці наркатычнае залежнасьці сярод моладзі й вызначыць чыньнікі рызыкі, якія фармуюць гэтую залежнасьць. І не заўсёды гэтыя чыньнікі выяўляюцца адразу. Залежнасьць можа аформіцца нават па сканчэньні ВНУ, хаця праблема зьявілася шчэ ў школьныя гады.

Сацыялягічныя досьледы, праведзеныя ў адной з вышэйшых навучальных установаў Берасьця, паказалі, што 20% моладзі каштавалі наркотыкі. 22% паведамілі, што ўжываюць болей за 1 літар моцных алькагольных напояў на месяц. Апроч таго, апытаньні паказалі, што чым маладзейшы курс, тым вышэйшы адсотак тых, хто ўжывае алькаголь і каштуе наркотыкі. Адсюль відаць, што прафіляктыку трэба пачынаць са школы, працягваючы гэтую працу ў ВНУ.

## Ад рэдакцыі

*Сп-ня Дунаеўская даслала нам вынікі анкетаваньня, праведзенага сярод студэнтаў Берасьця. Некаторыя лічбы падаліся нам настолькі цікавымі, што мы вырашылі зьмясьціць іх тут. Так, на пытаньне "Чаму Вы паліце?" найбольш распаўсюджанымі былі наступныя адказы: "Ад няма чаго рабіць" (10%) і "Каб супакоіцца" (17%). Вынікае лягічнае пытаньне: што ж гэтак турбуе берасьцейскіх студэнтаў, калі ім "няма чаго рабіць"? Паляць 33 адсоткі рэспандэнтаў (калі ўлічыць, што 67% апытаных – дзяўчаты, лічба выглядае пагрозьліва). Пры гэтым 78 адсоткаў выдатна ўсьведамляюць, што паленьне тытуню "ўвогуле шкодна ўплывае на арганізм". Сытуацыя – як у той показцы пра трох алькаголікаў, якія знайшлі пляшку з антыфрызам: апошні зь іх, згледзеўшы, што сябры пакаштавалі напою й аддалі Богу душу, з крыкам "Людцы!!! Ратуйце!!!" дапіў рэшту... Навошта ж мы сьвядома шкодзім свайму ўласнаму арганізму? 35% курцоў адпавялі, што хацелі б кінуць паліць, але большасьці зь іх "не стае сілы волі" (10%) альбо "замінаюць сябры, якія паляць" (7%). Цікава, а што калі тыя сябры пойдуць скакаць з моста?*

*Што да алькаголю, дык 61% апытаных лічаць, што моцныя напоі "дапушчальна ўжываць толькі ў сьвяты". Вось якія мы ўсе, здавалася б, пра-вільныя. Аднак не сьпяшайцеся радавацца: 22% ужываюць больш за 1 літар алькаголю на месяц. Атрымліваецца, "сьвята – кожны дзень"? Суцяшае толькі тое, што 61% апытаных зьяўляюцца шчырымі аматарамі самага студэнцкага з усіх напояў – піва. А вось 62% ужываюць сухія віны і шампаньскае. І гэта зусім не багаценькія Бураціны! Сытуацыя стане зразумелай, калі згадаць, што большасьць апытаных – дзяўчаты. А вось самагон п'юць толькі 6%. Крыўдна за айчыннага вытворцу... 52% апытаных выпіваюць "дзеля весялосьці". Няўжо ж так сумна жыць у Берасьці? Ня верым!*

*Як паведаміла сп-ня Дунаеўская, 20 адсоткаў удзельнікаў апытаньня з уласнага досьведу ведаюць, што такое наркотыкі. І гэта ўжо зусім ня сьмешна. Самыя моцныя рэчывы – ЛСД, гераін і какаін – каштавалі па 0,6%. А паколькі назвы наркотыкаў пісалі самі рэспандэнты, дык атрымалася, што 3,1% (самая вялікая лічба) паліць "траву". Відаць, з надыходам пэрыяду сенакосу гэты паказчык будзе толькі расьці.*

*Такі вось невясёлы стан рэчаў. Ёсьць над чым разважыць. Ну, а супрацоўнікам Цэнтру "Інтэлект" мы шчыра дзякуем за інфармацыю і зычым посьпехаў у іх нялёгкай справе.*

■



Натальля Лазука

# Купі слана!

*Сучаснае бясстыльле – хаос напрамкаў і творчых манэраў – розумам чалавека ўсё роўна прыводзіцца да нейкага падабенства сыстэмы. Аддзяляецца, няхай на падставе малазначных прыкметаў, адно ад другога – і з гэтага падзелу нараджаецца магчымасьць аналізу. Гэты артыкул ёсьць адной са шматлікіх ацэнак таго, што адбываецца ў рэчаіснасьці.*

Постмадэрнісцкі рай утрымлівае ў сабе ўсё: традыцыйнае і авангарднае, прагрэсіўнае і адміраючае... Усё і ўся знаходзяцца тут ва ўзаемадзеяньні.

Традыцыйныя віды мастацтва разьвіваюцца як і раней, аднак паступова сыходзяць у больш прыкладную сфэру – ва ўпрыгажэнства. Зь іншага боку, дызайн з дысцыпліны, абмежаванай патрабаваньнямі прамысловасьці, пакрысе ператвараецца ў галіну высокага мастацтва, у пошук чыстых формаў.


Паводле "Партрэта мужчыны" Эль Грэка


Паводле "Вілендорфскай Вэнэры" (Аўстрыя)

Актуальнае (тое, якое адпавядае сёньняшнім умовам і патрабаваньням, перш за ўсё камунікацыйным) мастацтва – гэта сымбіёз дзеяньня, гуку й візуальнага. Ён увасабляецца ў інсталяцыях, пэрфомансах, фота- й відэаарце, у мастацтве аб'екта.

Праца ў гэтых новых відах патрабуе іншых формаў асэнсаваньня рэчаіснасьці, уваходжаньня ў аб'ект альбо аналіз суб'екта знутры. Трансфармуецца мова, з дапамогай якой заўсёды размаўляў мастак, а таксама ягоныя тэмы, ідэі, ідэалы, катэгорыі – працоўныя інструмэнты ў працэсе творчасьці. Галоўную ролю тут адыгрывае бачаньне. Гэта тое, што не прышчэпліваецца штучна, але ўпітваецца на ўзроўні пад-свядомасьці і хаатычна выяўляецца ў выглядзе акту мастацтва. Постмадэрнісцкае бачаньне – яднаньне сучасных установак, характарыстык і ўмоўнасьцяў успрыняцьця. Найбольш адэкватна ў дадзеным асяродзьдзі працуюць маладыя мастакі, чыя культурная адукацыя прыпала на момант «уваходжаньня» эстэтыкі постмадэрнізму ў савецкае грамадзтва. І чым маладзейшы мастак, тым болей ён зьвязаны з гэтымі новымі тэндэнцыямі.

Моладзевае мастацтва, што нараджаецца ў пэрыяд фармаваньня асноў асобы і яе грамадзкае пазыцыі, займае адно з найважнейшых месцаў у сучасным мастацкім асяродзьдзі. Асабліва добра гэта бачна на пэрсанальных выставах, дзе межы творчых памкненьняў устаноўленыя самім аўтарам. Тым самым ён вызначае й сэнсавую плёскасьць гульні.

Маладыя мастакі больш карэктна працуюць з аб'ектамі рэчаіснасьці, іх прасторавымі сувязямі.





Рэфлексія тут пазбаўленая наўмыснасьці й найгранасьці. Сталыя ж аўтары нярэдка грашаць празьмернай інтэлектуалізацыяй, што выліваецца ў перагружанасьць тэксту й вялікую колькасьць гістарычных адсылак, утвараючы складанае павуціньне ўнутраных эстэтычных сувязяў. Маладыя мастакі не надаюць вялікае ўвагі гэткім падрабязнасьцям. Яны дбаюць не пра ўласны імідж, але пра імідж сваіх герояў. Яны не зважаюць на кан'юнктуру й моду, кіруюцца прынцыпам «што бачу, тое й рэфлексую». І гэта зусім ня шкодзіць сэнсавай напоўненасьці працаў.


Паводле "Піцьця гарбаты" Івана Кустодзіева


Паводле карціны "Юнак зь лютняй" Мікеланджэла дэ Караваджа

У немудрагелістасьці праектаў маладых аўтараў лепей бачыцца глыбокае пранікненьне ў існасьць быцьця, чымся ў блытаніне ангажаваных выставаў сталых мастакоў.

Менавіта такія тэндэнцыі прыкметныя ў мастацка-паразытычным праекце XXI ст. «Купі слана». Аўтары яго: Юры Пеўнеў, Уладзіслаў Квартальны (Беларуская дзяржаўная акадэмія мастацтваў) і Аляксандар Канавалаў (Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт культуры). Зладжаная імі выстава праходзіла зь 1 красавіка па 1 траўня ў галерэі «Vilnius».


І яшчэ адно "Піцьцё гарбаты"

## Уводзіны

Ужо ў самой назве адкрыта гучыць заклік да гледача. Інтрыга? Магчыма. Але бяз загадзя прадуманай рэакцыі: чым бы зачапіць візытэра? Сутнасьць праекту раскрываецца адразу ж: тут няма зьбітых паэтызаваньняў, штампаў, спробаў зарыгінальнічаць альбо шакаваць.

Усё пададзена такім, як яно ёсьць. Мастак у любым сваім твор-

чым акце прымае тую ці іншую ролю, маску, позу. Пазэрства зьдзяйсняецца за кошт пэўнага «багажу» – візуальнага, сэнсавага... Як і паразытаваньне. І ў гэтым працэсе паразытаваньня аўтары не імкнуцца схаваць адценьне гульні. Яны быццам кажуць: «Так, у нас маскі спажыўцоў. Мы гэтага ня тоім. Вось яны. Але ж паспрабуйце здагадацца, хто за імі хаваецца».

## Тым часам
## (думкі аўтара на выставе)

Экспазыцыя: 21 праца + 3 віды слана + 3 профілі аўтараў праекту. Пад кожнай фотапрацай месьціцца копія аўтэнтычнага твору, які іранічна адлюстраваны на здымку праз асобы аўтараў праекту – Караваджаўскі «Хлопчык зь лютняй», Рэмбрантаўская «Даная», «Юдзіф і Аляфэрн» Клімта, «Піцьцё гарбаты» Кустодзіева. Падабенства прасторы, што атачае герояў, да карціннае дасягаецца з дапамогаю імітацыі прадмэтамі, што атаясамліваюцца са студэнцкай субкультурай і родам дзейнасьці саміх аўтараў (мастацкай). Напрыклад, у партрэце мужчыны (Эль Грэка) шпага замяняецца венікам.

Канцэпцыя гэтага праекту менш за ўсё эпатуе. Хутчэй тут


*Гэткая вось "Ніка"...*

паўсюль іронія, нязлобны «сьцёб». Гумарыстычная рэакцыя не бяз пэўнага элемэнту высьмейваньня твораў, праз пазбаўленьне ад сур'ёзнасьці іх ацэнкі. Узведзеная ў ранг самаахвяраваньня, служэньня высокім ідэалам грамадзтва й чалавецтва, дзейнасьць мастака на сёньняшні момант здаецца наўмыснай, залішне сацыяльнай.

Прапускаючы праз кантэкст студэнцкай субкультуры клясычныя вобразы, аўтары часам пераходзяць на мову соцарту. Аднак не парадыруюць побыт – хутчэй надаюць яму адценьне (безумоўна, іранічнае) касьмізму. Трывіяльныя прадмэты ўзьвялічваюцца да роўню мастацкіх аб'ектаў, складнікаў працэсу асэнсаваньня існасьці сусьвету.

І ўсё гэта будуецца па прынцыпе «ў кожным жарце ёсьць доля жарту»: сур'ёзнае й іранічнае зьмешваюцца ў адзіным. У гульні. Выкарыстаньне мастацкіх штампаў – усім вядомых палотнаў знакамітых аўтараў, папулярызаваных грамадзтвам, – прадугледжвае адкіданьне любых эстэтычных табу, пераўтварае культуру мінуўшчыны адначасова ў музэй і гадавальнік постмадэрнісцкае эстэтыкі.

Асяродзьдзе «інтэрнату», якое й ёсьць тым своеасаблівым музэем субкультуры студэнцтва, прадстаўляецца складанай тканінай жыцьця суб'екта (самога аўтара), зь якой ён чэрпае сэнс і формы сваіх твораў. Арыенціры ў гэтай гульні быцьця й побыту – трывіяльныя рэчы: венік, пляшкі, збаны, боты, драпіроўкі.

Выкарыстаньне апошніх – цікавая знаходка аўтараў. Жывапісная паверхня палатна замяняецца тканінай, не эклектычна, але паралельна з фактурнасьцю целаў саміх суб'ектаў.

У праекце паразытуюцца/эксплюатуюцца карціны вядомых мастакоў, у выніку чаго сэнс рэальнага мастацкага твора пераадрасуецца з дапамогай пералічаных ужо элемэнтаў «інтэрнатаўскага» асяродку.

18 жаночых вобразаў (з 21 нагул)... Магчыма, гэта дыялёг на тэму фэмінізму, а дакладней – увогуле ролі жанчыны як у грамадзтве, так і ў працэсе мастацкай дзейнасьці, дзе яна ёсьць аб'ектам уражаньняў, а мужчына – суб'ектам рэакцыі на яе.

Зноў-ткі дзеяньне адбываецца праз незласьлівую фізіялягічную, псыхалягічную ці сацыяльную іронію – тым самым аўтары пазьбягаюць усіх вострых кутоў/пытаньняў фэмінізму. Няма й заклікаў да таго ці іншага полу як сацыяльнае групы. Гэта хутчэй размова, і адначасова – унутраны маналёг. Няма ан-


*Густаў Клімт, "Юдзіф і Аляфэрн" (вядома, не арыгінал)*





іякай палярнасьці ў ацэнцы жанчыны, няма нават самой ацэнкі. Простая фіксацыя стану.

Ці, дакладней, тыпаў, іміджаў жанчыны, якімі апэруе мастак: паэтэса/эстэтка (Ахматава), сьвятая/анёл (Марыя Магдаліна), фэя/фантазія (балярына Дэга), спакусьніца/вядзьмарка (Юдзіф) і г.д. І ў гэтай фіксацыі няма сапсаванасьці прагрэсам/грамадзтвам, імкненьня да бруталізацыі. Бо яны, іміджы, ня ўпісаныя ў асяродзьдзе студэнцкай эстэтыкі, тым больш у свядомасьць аўтараў праекту. Магчыма, з-за недахопу жыцьцёвага досьведу альбо праз адсутнасьць жаданьня апэраваць ім.

Няма тут стандартнай акцэнтацыі фізіялёгіі – жаноцкага цела, прыцягальнага выключна сэксуальна. Яно абыгрываецца аўтарамі двухзначна: як галоўны аспэкт рэальнага натхненьня й адначасова як яшчэ адзін элемэнт гульні/паразытаваньня, дзе цела становіцца маскай самога сябе, адзеньнем асабістага «Я».

Вобраз жа слана (цацкі з тканіны) прысутнічае як нейкі момант вяртаньня ў рэчаіснасьць з заблытанае гульні сэнсаў, як выхад з мэдытацыі наконт мастацтва. Слон – не аб'ект іроніі. Ён яе знак. Ён – шматварыянтна трактаваны, ня з гэтай рэчаіснасьці суб'ект. Ён – жартаўнік, джоўкэ, у якога няма роду, паходжаньня, сацыяльнай прыналежнасьці. Адбываецца гульня на проціпастаўленьні канкрэтнага слана і слана ўвогуле.

1. Вялікі – маленькі.
2. Фактура скуры – тэкстура тканіны.
3. Жывое (жывёла) – мёртвае (цацка).
4. Натуральны колер (шэры) – штучны (чырвоны).
5. Рухомасьць, жвавасьць – зафіксаванасьць, статычнасьць.

Гэтыя параўнаньні — камэртон парадыраваньня, існасьць паразытызму ў праекце. Слон ператвараецца ва ўвасабленьне саміх парадоксаў існаваньня ў рэчаіснасьці.

Дваістая роля слана (джоўкэ) – злучэньне сэнсавай канвы праекту, нязьменны знак іранічнасьці засваеньня мастацкага асяродзьдзя, яго твораў, каштоўнасьцяў, усяго набытага, напрацаванага за стагодзьдзі сэнсарнага матэрыялу. Гэта гульня з самым важным: з тым, чым апэруе і з чым атаясамліваецца любое грамадзтва, – з культурай, заўсёдным паказчыкам маральна-эстэтычнага разьвіцьця чалавецтва. Не навука, палітыка, войны, а культура застаецца ў вечнасьці як памяць, як гісторыя. Такім чынам, мастацкія штампы зьяўляюцца ідэалягізаванай, перадузятай ацэнкай культуры – прадказальнасьцю рэакцыі на яе. Іронія ж здымае маску сур'ёзнасьці, афіцыёзу, ангажаванасьці, пазбаўляе такім чынам культуру ад штучных утварэньняў у момант яе засвойваньня. А значыцца, дае глебу для далейшага руху да новага.

### *P.S. Кароткі маналёг аднаго з аўтараў выставы*

***Юры Пеўнеў:*** *Рабілі мы праект роўна год: фотаздымкі, канцэпцыю... Ну й раз ён паразытычны – трэба было й экспанаваць яго 1 красавіка. Як жарт. Так яно й адбылося.*

*Дый пачыналася ўсё як жарт – з балдзяжу. Сядзелі мы (Юры Пеўнеў і Ўладзіслаў Квартальны – заўв. аўтара) у пакоі інтэрнату, пілі гарбату з сушкамі. Тут прыйшоў наш сябар Аляксандар (Канавалаў) з фотаапаратам і пачаў нас здымаць у розных позах – з сушкамі, там, за гарбатай, са сланом. Пакрысе мы завяліся, пачалі нешта выдумляць, экспэрымэнтаваць. Ужо потым, калі мы вырашылі з напрацаванага матэрыялу зрабіць выставу, пачаўся адбор...*

А першым быў экспромт па Вэляскесу. Узгадаўся тады ж і Раман Вашкевіч зь яго палотнамі на «Гішпанскай партыі» (выстава ў Музэі сучаснага выяўленчага мастацтва, вясна 2000 г.). У гэтым рэчышчы й вырашылі працаваць.

Бралі мастацкія штампы – карціны, якія, я думаў, ведае кожны, – каб лягчэй узгадваліся і не было патрэбы ў тлумачэньнях. Праўда, мы ўносілі зьмены ў кампазыцыю, каб не рабіць пародый, гэткіх вось – у лоб...

Сама ідэя аформілася з гульні: 3 чалавекі – і 3 мужчынскія вобразы на выставе. Кожнаму з аўтараў па 21 годзе – вось чаму 21 праца. Потым, у назве – XXI стагодзьдзе. Вось якія паралелі. Жаночыя вобразы астатнія – іх увесь час пішуць мастакі – зноў-ткі ў асноўным мужчыны...

Слон жа напачатку ў кадр трапіў выпадкова. Ужо потым мы яго пачалі адмыслова выкарыстоўваць: шукаць месца, сэнс...Натхнілі нас яшчэ й драпіроўкі, такімі маляўнічымі яны нам падаліся, плястычнымі... Але тут было шмат выпадковага. Слон жа быў чацьвертай асобай на выставе, удзельнікам, і мы яго правялі па ўсім... гм... шляху мастацтва. А потым... потым прадалі: на адкрыцьці выставы зрабілі аўкцыён. Нешта каля 2000 сушак за яго атрымалі. Вось вам і «Купі слана».

*Фотаздымкі рабіў Аляксандр Канавалаў, мы ж у асноўным пазіравалі... Цікава выйшла. Нам і, маю надзею, вам. Зараз мы вырашылі адправіць наш праект на Арт-Сэсію ў Віцебск. Паглядзім, як там наш слон будзе «катыравацца». Так што продаж ідзе. А слон вандруе...*



■

Стася Куніцкая

# Як істраць беларускія алоўкі



*Паступіўшы на жаданы факультэт адной зь беларускіх ВНУ, новасьпечаныя студэнты нярэдка расчароўваюцца. Перад уступнымі іспытамі яны чакаюць ад унівэрсытэту непараўнальна болей, чым ён можа даць насамрэч.*

Факультэт журналістыкі БДУ – не выключэньне з рэкардсмэнаў па разьбітых аб шурпатыя сьцены дзявочых ды хлапечых мроях.




Хаця пасьля некалькіх тыдняў разгубленасьці ўчорашнія абітурыенты ўсьвядамляюць, як ласкава ім усьміхнуўся пан Лёс. Выкладчыкі любяць запрашаць да сябе на лекцыі знакамітых людзей. Сустрэчы са старшынём Дзяржкамдруку ці ўнівэрсытэцкім рэктарам сталіся ўжо традыцыйнымі. Апошнім госьцем на факультэце быў Аляксандар Зімоўскі. Вось у каго варта спытацца пра сакрэт збору аншлягаў на сваіх выступах! Ён трымаўся са студэнцтвам шчыра й цынічна, заявіўшы будучым калегам аб сваёй ангажаванасьці ўладамі і немагчымасьці свабоды слова ў чыстым выглядзе нідзе ў сьвеце, акрамя вар'яцкага дому. Пагадзіцеся, заява – акурат для лекцыі па журналісцкай этыцы. Выкладчыца менавіта гэтае дысцыпліны зарганізавала сустрэчу. Гэты ўрок быў найбольш актуальнай тэмай для абмеркаваньня на працягу наступнага тыдня.

Але нават на журфак такія птушкі залятаюць ня стаямі. А ў паўсядзённым жыцьці студэнты занепакоеныя рэйтынгавай сыстэмай, якую ў якасьці экспэрымэнту запусьцілі з пачатку 2001 году. Адміністрацыя факультэту сьпярша хацела парадаваць сваіх навучэнцаў:









залікаў ня будзе! Пры канцы году трэба здаваць толькі іспыты. Да іх студэнтаў дапускаюць пры ўмове, што тыя ня маюць запазычанасьцяў па іншых прадметах. Гэта значыць, што студэнт мусіць пасьпяхова здаць па два прамежкавыя залікі па кожнай з дысцыплінаў. Пазначку ў ведамасьць можна атрымаць, набраўшы пэўную колькасьць балаў. Сыстэма іх выстаўленьня яшчэ не аформілася канчаткова.

Правілы, усталяваныя дэканатам, кожны выкладчык інтэрпрэтуе й выконвае па-свойму. Адно застаецца нязьменным: каб атрымаць патрэбную для мікразаліку колькасьць балаў, трэба старанна наведваць усе заняткі (балы налічваюцца ў тым ліку і за наведваньні).

Патрабаваньні прысутнасьці студэнтаў на кожным занятку супярэчаць элемэнтарнай лёгіцы. Навучыць пісаць нельга. Пісаць можна толькі навучыцца. Таму студэнты, асабліва тыя, каму пашчасьціла знайсьці працу, павінны перадусім назапашваць практычны досьвед. І ня толькі ў часе восеньскае практыкі. Раней дэканат рабіў выключэньні для найбольш актыўных працаўнікоў, дазваляючы ім вольнае наведваньне заняткаў. З усталяваньнем рэйтынгавае сыстэмы ўсе заявы, падпісаныя дэканам, страцілі сваю моц.

Студэнцтва адрэагавала на новыя правілы зборам подпісаў. Супраць рэйтынгавае сыстэмы выказваліся ўсе, але ўнесьці сваё прозьвішча ў сьпіс незадаволеных адважваўся ня кожны. Хаця да сэсіі было яшчэ далёка, баязьліўцаў знайшлося дастаткова. Зрэшты, дэманстрацыя пратэсту не прынесла ніякага плёну. Незадаволенасьць студэнцтва была праігнараваная. Адно толькі арганізатару збору подпісаў паківалі пальчыкам.

Дэканат абвясьціў, што рэйтынгавая сыстэма прымусіць моладзь займацца самастойна. Лепшага для журфакаўца й не прыдумаеш! Файна было б усталяваць апошнія тэрміны здачы ўсіх самастойных працаў і не замінаць студэнцкай творчасьці. Замест гэтага выкладчыкаў узброілі стосамі табліцаў, дзе яны мусяць, як у школе, адзначаць студэнцкія посьпехі й няўдачы. Выкладчыкі скардзяцца, што разабрацца ў гэтай бюракратыі немагчыма.

Рэйтынгавая сыстэма сталася прыступкай для пераводу факультэту журналістыкі на новы стандарт падрыхтоўкі адмыслоўцаў. Цяпер тут будуць даваць дыплёмы бакаляраў (пасьля 4-га курсу) і магістраў (тым, хто пажадае застацца ва ўнівэрсытэце яшчэ на два гады). Новы парадак раскрые для журфакаўцаў магчымасьці далейшага навучаньня за мяжой. Пераход да эўрапейскага ўзору, безумоўна, ёсьць прагрэсіўным вынаходніцтвам адміністрацыі факультэту. Але журфак ня быў бы журфакам, калі б не падклаў дзёгцю ва ўласную бочку зь мёдам.




Акрамя ўласна журналістаў, тут рыхтуюць літаратурных рэдактараў, міжнародных карэспандэнтаў і спэцыялістаў па інфармацыі й камунікацыі (так па-старому мянуюць тут PR-адмыслоўцаў). Ня ўсе спэцыяльнасьці на факультэце аднолькава прэстыжныя. З-за няроўнасьці конкурсаў таленавітая моладзь можа ня трапіць на жаданую спэцыяльнасьць. Пры гэтым менш старанныя абітурыенты маюць шанец спакойна заняць меней прывабныя месцы. Каб пазьбегнуць такога надалей, дэканат абвяшчае ў гэтым годзе набор проста на журфак. Два гады *freshmen* і *freshwomen* будуць вучыцца, ня ведаючы, які іх чакае лёс. Толькі на трэцім курсе ім скажуць, хто варты гонару рэдагаваць кніжкі ў прэстыжным выдавецтве, а каго далей раёнкі ня пусьцяць.

Пакуль трагічных наступстваў рэйтынгавая сыстэма не займела. Але ўсё наперадзе: першыя сьлёзы праліюцца ў часе летняе сэсіі. ■

Наталя Гардзіенка

# Ёганэс Брамс



*У восень 1853 году Кляра Шуман напісала ў сваім дзённіку: «Гэты месяц прынёс нам надзвычайную зьяву ў асобе дваццацігадовага кампазытара Брамса з Гамбургу. Гэта зноў той, каго накіраваў да нас сам Бог! Ён граў нам свае санаты, скерца й іншыя творы. Паўсюль бездань фантазіі, шчырасьць пачуцьцяў, майстэрскае валоданьне формай. Адчуваеш сапраўднае хваляваньне, калі назіраеш за ягоным інструмэнтам... Прывабны юнацкі твар, які падчас ігры робіцца зусім прасьветлены, прыгожыя рукі, што зь незвычайнай лёгкасьцю пераадольваюць вялікія цяжкасьці (ягоныя рэчы вельмі складаныя), і да таго ж – гэтыя выдатныя творы! Ён вучыўся ў Марксэна ў Гамбургу, але тое, што ён нам граў, напісана з такім майстэрствам, што мімаволі думаеш: гэтага чалавека Пан Бог стварыў ужо ў цалкам завершаным выглядзе...»*

Чалавек, пра якога з такім захапленьнем пісала жонка вядомага нямецкага кампазытара Робэрта Шумана, сапраўды нарадзіўся ў Гамбургу 7 траўня 1833 году. Ягоны бацька Ёган Якаб Брамс, які ў юнацтве зьбег з дому, каб стацца музыкам, добра граў на кантрабасе, але ня меў з таго вялікіх грошай, і таму Ёганэс зьявіўся на сьвет у самым бедным раёне гораду. Маці Ёгана Хенрыка Хрысьціна была на сямнаццаць год старэйшая за бацьку. Нягледзячы на галечу, дзяцінства Брамса прайшло ў цёплай сямейнай атмасфэры любові, і ўдзячнасьць бацькам, а таксама прывязанасьць да роднага гораду не пакідалі творцу праз усё жыцьцё.

Ёганэс рана стаў адчуваць патрэбу ўвасобіць свае эмоцыі ў музыцы, таму быў аддадзены ў навучаньне гамбурскаму музыку Клосэлю. У выніку ўжо ва ўзросьце 10 год ён добра граў на фартэп'яна і браў удзел у ансамблі, выконваючы творы Бэтховэна й Моцарта. Пасьля аднаго з канцэртаў хлопчыку прапанавалі зьехаць у ЗША, каб займець больш шырокія магчымасьці для разьвіцьця свайго таленту. Маленькі Ёганэс ці не на крылах прыляцеў да свайго настаўніка, аднак Клосэль скептычна паставіўся да такой прапановы. Ён разумеў, што хлопчык сапраўды мае вялікі талент, і вырашыў перадаць ягонае навучаньне самаму вядомаму на той час у горадзе музыку й кампазытару Эдуарду Марксэну.

Новы этап музычнай навукі прынёс Ёганэсу іншыя ўражаньні. Калі ранейшы настаўнік рыхтаваў яго на музыку-віртуоза, дык новы мэтр усімі сродкамі падтрымліваў імкненьне маладога Брамса да стварэньня ўласных музычных твораў. Вынікам шматгадовага навучаньня быў першы сольны канцэрт Ёганэса Брамса, які адбыўся 21 верасьня 1848 году ў ягоным родным горадзе. Музыку заўважылі, але ня болей за тое... Кансэрватыўныя жыхары Гамбургу не паставіліся сур'ёзна да творчасьці юнака зь беднага кварталу, і Ёганэсу давялося працягваць граць у рэстарацыях, каб здабываць грошы для сям'і.

Гады навучаньня й першых досьведаў канцэртнай дзейнасьці сталіся для Брамса і часамі захапленьня рамантызмам. Ён шмат чытаў, асабліва Гофмана, рабіў нататкі на ўзор галоўнага героя «Ката Мура». Як сапраўдны рамантык, Ёганэс моцна адчуваў адзіноту. Ён ня меў блізкіх душэўных адносінаў ні з хваравітай старэйшай сястрой, ні з малодшым братам. Бацькі чакалі ад сына дзейнасьці, якая прынясе рэальны прыбытак, а адчувальнага посьпеху пакуль не было. Аднойчы, калі ў Гамбург завітаў з гастролямі сам Робэрт Шуман, малады Брамс вырашыў даслаць яму некалькі ўласных твораў, аднак заняты кампазытар нават не адчыніў дасланую капэрту, а проста вярнуў назад. Гэты выпадак вельмі пакрыўдзіў Ёганэса і адначасова паказаў бацькам, што сыну трэба шукаць свайго шчасьця самастойна недзе ў іншым месцы.





У 1853 годзе Брамс зьехаў з роднага гораду. Спачатку ён разам з мадзярскім скрыпачом Эдуардам Рэмэны ладзіў канцэрты ў розных нямецкіх гарадох і нават пазнаёміўся са славутым Лістам. Аднак сустрэча з апошнім ня мела добрых вынікаў. Паводле адной з вэрсіяў, малады Брамс заснуў, калі вядомы кампазытар выконваў уласныя творы, што выклікала адпаведную рэакцыю мэтра. Рэмэны таксама быў ня надта задаволены: ён шукаў падтрымкі Ліста. У выніку дуэт распаўся, і Брамс застаўся адзін.

Урэшце хтосьці са знаёмцаў параіў Ёганэсу сустрэцца з Шуманам. Памятаючы першую няўдачу, Брамс доўга адцягваў свой візіт у Дусэльдорф і толькі ў верасьні 1853 году нарэшце вырашыў ехаць. У доме Робэрта Шумана ён быў прыняты вельмі цёпла, нават з захапленьнем. Ужо праз некалькі тыдняў Шуман напісаў артыкул пра зьяўленьне новага генія, чым зрабіў свайму маладому калегу добрую рэкляму. Ёганэс насамрэч меў вялікі посьпех, бо славуты патрон, якога ён знайшоў у асобе Шумана, прэзэнтаваў яго ва ўсіх вядомых музычных асяродках. Адчувалася й ідэйная блізкасьць творцаў: для абодвух музыка была найперш сродкам увасабленьня эмоцыяў, пачуцьцяў.



У гэты час Ёганэс Брамс упершыню адчуў смак сапраўднага посьпеху. Яму прадказвалі вялікую будучыню, але... Праз паўгоду з дня знаёмства зь Ёганэсам у Робэрта Шумана адбываецца нэрвовы зрыў. Яму пачынаюць зьяўляцца прывіды, ён чуе нейкія гукі... Каб пазбавіцца пакутаў, вядомы кампазытар кідаецца ў Рэйн. Яго выратавалі, аднак псыхіка значна пацярпела, і лекары вымушаныя былі ізаляваць хворага. Ягоная маладая жонка Кляра засталася адна з шасьцю дзецьмі, у чаканьні на сёмага. Ёганэс Брамс вырашыў аддзячыць сям'і свайго дабрадзея і адразу па атрыманьні сумнай весткі прыехаў у Дусэльдорф. Ён па магчымасьці дапамагаў Кляры: спачатку з удзячнасьці, потым з-за каханьня. Ёганэс пісаў Кляры лісты, поўныя пяшчоты й захапленьня: «Мне заўсёды хочацца гаварыць Вам толькі пра каханьне... Кожнае слова, якое я Вам пішу і якое не гаворыць пра каханьне, вымушае мяне пакаяцца». Аднак жанчына, старэйшая за яго на чатырнаццаць гадоў, была адданая свайму мужу. Адзінае, што яна магла зрабіць для Ёганэса, – гэта стацца ягонай музай, прымушаць займацца творчасьцю й не кідаць кар'еры.



Брамс жа разрываўся паміж каханьнем і адданасьцю сябру. І вынікам гэтай унутранай барацьбы стаўся сур'ёзны творчы крызыс. Толькі сьмерць Робэрта Шумана ў ліпені 1856 году паклала канец ваганьням. Аднак пачуцьці Ёганэса да Кляры раптам сталі халаднейшымі, былая жарсьць зьнікла. Выбіраючы паміж шлюбам і кар'ерай, Брамс спыніўся на апошняй.

Каб працягваць кар'еру і адначасова зарабляць грошы, Брамс пераехаў у Дэтмольд, дзе вучыў граць на фартэп'яна прынцэсу Фрэдэрыку і кіраваў прыдворным хорам. Гэтыя заняткі ня вельмі задавальнялі творцу, які марыў вярнуцца працаваць у Гамбург.

У Брамса было шмат сяброў, зь якімі ён любіў бавіць час улетку. Так, у 1858 годзе ён правёў цудоўнае лета ў Гетынгене, дзе закахаўся ў прыгожую чарнавокую брунэтку Агату фон Зібальд, дачку ўнівэрсытэцкага прафэсара. Моц таго пачуцьця заўважыла нават Кляра, якая таксама на некаторы час завітала ў Гетынген, аднак, пабачыўшы стан Ёганэса, хуценька зьехала. Кляра не зайздросьціла маладой суперніцы, бо, калі каханьне Брамса стала відавочнае і бацькі запатрабавалі прыняць канчатковае рашэньне, сытуацыя паўтарылася: Ёганэс абраў волю і творчасьць. Ён вярнуўся на некаторы час у Гамбург, дзе кіраваў мясцовым жаночым квартэтам і адначасова працаваў над улас-

ными музычнымі творамі. Аднак жанчыны з квартэту хутка пачалі змагацца за ўвагу мэтра, што стварала зусім ня творчую атмасфэру. І Брамс вырашыў зьехаць. Цікава, што кампазытар пакінуў такі глыбокі сьлед у сэрцах дзяўчат з квартэту, што большасьць зь іх так ніколі й ня выйшла замуж.

А Брамс паехаў шукаць шчасьця ў тагачасную музычную сталіцу сьвету – Вену. Тут яго чакалі новыя раманы, новыя сустрэчы, сябры й багатае сьвецкае жыцьцё. Насычаная эмоцыямі творчасьць Ёганэса была добра ўспрынятая венскай публікай. Настолькі добра, што кампазытар у хуткім часе быў абраны кіраўніком Сьпеўнае акадэміі. Ні маладосьць, ні пахо-джаньне ня сталі перашкодай. Вена зрабілася для яго другой радзімай. Тут ён плённа працаваў і меў посьпех. Тут жа лёс зьвёў яго са Штраўсам і з Вагнэрам.

Ёганэс па-ранейшаму клапаціўся пра бацькоў, рэгулярна дасылаючы ім грошы. Увосень 1864 году бацькі вырашылі разьвесьціся, і Ёганэс вельмі моцна праз гэта пакутваў. Смутку дадало і тое, што маці ў хуткім часе цяжка захварэла і праз год памерла. Бацька вырашыў ажаніцца з больш маладой жанчынай, і сын, крыху павагаўшыся, усё ж прыняў бацькаву абраньніцу і да сьмерці падтрымліваў зь ёй добрыя адносіны. Сьмерць маці, непрызнаньне на радзіме, смутак і адзінота сталі глебай для напісаньня самага вядомага твору Брамса – «Нямецкага рэквіему», які ўпершыню прагучаў у Брэмэне ў Вялікую Пятніцу 1868 году і зрабіў Ёганэса насамрэч знакамітым. Цяпер ягоны талент быў прызнаны музычнай Эўропай.

Посьпехі й няўдачы ў жыцьці Брамса заўсёды йшлі побач. Пасьля трыюмфу «Нямецкага рэквіему» ён перажывае новае няшчаснае каханьне. На гэты раз яго абраньніцай, зь якой ён, магчыма, нават пагадзіўся б ажаніцца, была Юлія, дачка Клары Шуман. Аднак дзяўчына хутка пабралася шлюбам зь іншым. У 1872 годзе цяжка захварэў на рак пячонкі і памёр бацька, сьмерць якога была велізарным шокам для Ёгана...

Аднак гэтыя гады – час найвышэйшага росквіту музычнай кар'еры Брамса. Яго запрашаюць у разнастайныя турнэ: Італія, Вугоршчына, Польшча...Былі прапановы нават з Брытаніі, аднак кампазытар, які вельмі баяўся марской хваробы, так і не адважыўся туды выправіцца.

Як прызнаньне таленту, у 1889 годзе Брамс атрымаў ад аўстрыйскага імпэратара Леапольда рыцарскі крыж і тады ж быў абраны ганаровым грамадзянінам Гамбургу. Аднак ён так і не вярнуўся ў родны горад. Брамс аддаваў перавагу Вене – гораду, дзе ён меў шмат сяброў, зь якімі сустракаўся за вячэрай у рэстарацыі зь дзіўнай назвай «Чырвоны вожык».

У 1890 годзе Брамс вырашыў спыніць сваю музычную дзейнасьць і проста пажыць для сябе. Час браў сваё, блізкія людзі сталі адыходзіць у нябыт... У 1896 годзе памерла Клара. Ёганэс Брамс ненашмат перажыў жанчыну, што падтрымлівала яго праз усё жыцьцё. Цяжкая хвароба – рак пячонкі – як і ў бацькі, разьвівалася досыць хутка, і 3 красавіка 1897 году славутага кампазытара ня стала. Ён памёр у Вене, аднак жалобныя мерапрыемствы ладзіліся і ў ягоным родным горадзе, дзе ў гэты дзень на ўсіх караблях у порце былі спушчаныя сьцягі. Горад разьвітваўся са сваім славутым сынам, якога так неласкава прымаў пры жыцьці.

Праз усё жыцьцё Брамс заставаўся самотны. У яго не было ні жонкі, ні дзяцей. Каханая жанчына калісьці сказала яму, што ён ня можа належаць аднаму чалавеку, бо належыць усім. Так і сталася...





**Марына Мікуліч**

# Перасяляемся ў Эўропу?



*З 8 па 13 красавіка 2001 году ў Бэрліне праходзіла міжнародная канфэрэнцыя "Эўропа ў XXI стагодзьдзі – агульны дом?", зарганізаваная лектарамі нямецкага фонду Боша. У канфэрэнцыі бралі ўдзел студэнты зь Летувы, Латвіі, Эстоніі, Беларусі, Украіны, Расеі, Грузіі, Польшчы й Вугоршчыны. У беларускую дэлегацыю ўваходзіла і я, аўтарка гэтых радкоў.*

Вандроўка пачынаецца з таго, што я сядаю ў цягнік "Масква–Бэрлін" і накіроўваюся ў адначасова блізкую (геаграфічна) і далёкую (па роўні й стылі жыцьця) Нямеччыну. Еду на канфэрэнцыю "Эўропа ў XXI стагодзьдзі – агульны дом?". Здавалася б, канфэрэнцыя як канфэрэнцыя, але яна прызначалася выключна для студэнтаў выключна балтыйскіх краінаў, краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы і Расеі. Вынікае супярэчлівасьць: Бэрлін, няглясная сталіца Эўропы, эўрапейская тэматыка канфэрэнцыі – і раптам краіны, якія зусім не складаюць ядро сучаснае Эўропы. Як укласьці ў галаве ўсе гэтыя факты? Ня так ужо й складана: Эўропу часта асацыююць з Эўрапейскім Зьвязам, што з геаграфічнага і культурнага гледзішча няправільна. Са ўступленьнем у ЭЗ такіх краінаў, як Чэхія, Польшча, Эстонія, гэткае стаўленьне станецца памылковым у палітычным сэнсе. Таму ўжо цяпер перад кожнай "новай" эўрапейскай краінай (у ліку іх і Беларусь) паўстае праблема вызначэньня свайго месца ў агульным эўрапейскім доме.

Усьвядоміўшы гэты просты факт, я разважаю, праязджаючы ўжо праз Польшчу, як бы мне прэзэнтаваць Беларусь на такой канфэрэнцыі. Перад кожным удзельнікам стаяла задача: з дапамогаю якога-небудзь характэрнага прадмета прадставіць сваю краіну. Беларускія цукеркі пры нас (са мною – мая каляжанка Марыя Карніенка), паштовак зь відамі Менску, беларускіх цэркваў і Мірскага замка хапае. Але хіба гэта ўся Беларусь? Я не магу пакінуць па-за ўвагаю назву краіны – Belarus ці Weissrussland – сучасную палітычную й эканамічную сытуацыю на Беларусі. Пра гэта трэба казаць і казаць, пераадольваючы бар'ер маўчаньня паміж Беларусьсю і астатняй Эўропай. І ўжо на стаянцы ўва Франкфурце-на-Одэры мы дапісваем нашую невялікую прамову, у якой разважаем пра Bella-русь (іт. "bella" - прыгожая) і Weiss-russland (ням. "weiss" – белы, у тым ліку і як сымбаль духоўнае чысьціні). Праз колькі гадзінаў за вокнамі ўжо Бэрлін, які можа выклікаць зусім розныя пачуцьці ў сувязі зь мінулым і сучаснасьцю. У мяне толькі адно пачуцьцё – задавальненьне ад чысьціні й стракатасьці жыцьця ў квітнеючай Нямеччыне.

Канфэрэнцыя, аказваецца, праходзіць у вельмі цікавым месцы – замку Глінікэ, які хаця ніякай культурнай каштоўнасьці ня мае (ён быў пабудаваны напачатку XX ст.), але ж месьціцца літаральна ў сотні мэтраў ад вядомага моста Глінікэ. Гэты мост падзяляе Бэрлін і Патсдам, а ў свой час ён аддзяляў Заходні Бэрлін ад Нямеччыны, кантраляванае Савецкім Саюзам. Падчас "халоднае вайны" (ажно да 1989 г.) на гэтым мосьце ладзіліся абмены шпіёнамі. Цяпер пра тое нішто не нагадвае (апроч, канешне, самога моста), але калі ўявіць сабе...

Паціху пачынаюць падцягвацца ўдзельнікі канфэрэнцыі. Іх усяго 32. Хутка пачынаем знаёміцца (напрыклад, у гульні "Чаму цябе так бацькі назвалі?") і паволі пераходзім да прэзэнтацыі краінаў. Расея прадстаўляе сябе надзвычай салодкім чынам – расейскай чакалятаю "Пётр I" і "Прэзыдэнцкі". Латвія прывезла сапраўдныя камяні з Балтыйскага мора. Вугоршчына ў якасьці характэрных для сваёй краіны рэчаў выстаўляе віно й жоўтую бляшаначку з надпісам "Апошні подых камунізму", нагадваючы тым самым сабе й астатнім пра падзеі найноўшае гісторыі. Чэхія дэманструе аскепкі мэтэарыта, якія можна знайсьці толькі ў ваколіцах гораду Будавіцэ, а Беларусь (мы, значыцца) пачынае прэзэнтацыю з расповеду пра несалодкія беларускія рэаліі. Прэзэнтацыю сканчваем мы словамі: "Каб крыху падсаладзіць вашыя ўражаньні пра Беларусь, пакаштуйце нашых цукерак!".

Нашая прэзэнтацыя мае рэзананс: цягам усяе канфэрэнцыі падыходзяць удзельнікі з розных краінаў, цікавяцца сытуацыяй на Беларусі. Больш за тое, беларускія пытаньні сур'ёзна абмяркоўваюцца на на-

***Брандэнбурская брама на рэстаўрацыі...***



ступны дзень у рэгіянальнай групе, куды ўваходзяць Расея, Беларусь, Украіна й Грузія (астатнія краіны працуюць у дзьвюх іншых групах – краіны Балтыі і Цэнтральная Эўропа). Заданьне вельмі простае: сфармуляваць сваё бачаньне роднае краіны ў эўрапейскім кантэксьце праз 30 год. Мы бярэм на сябе сьмеласьць сьцьвярджаць, што Беларусь праз 30 год стане цэнтрам Эўрапейскага Зьвязу, матывуючы гэта тым, што ЭЗ – самы выгодны эканамічны партнэр для Беларусі. Вось тут і ўзьнікаюць шматлікія пытаньні пра беларуска-расейскі саюз, пра палітычны курс Лукашэнкі і г.д. Трэба сказаць, што гэткая ўвага да лёсу Беларусі прыемная. Ня менш прыемна, што адной з тэмаў для працы ў тэматычных групах ёсьць пытаньне пра падтрымку апазыцыйнага руху на Беларусі. Прапануюць адчыніць незалежнае радыё ў Вільні, стварыць праграму на расейскай тэлевізіі, якая б па магчымасьці аб'ектыўна адлюстроўвала падзеі на Беларусі, падтрымліваць ужо існыя недзяржаўныя газэты. На жаль, усе гэтыя здаровыя прапановы толькі імі й застаюцца. Але сам факт неабыякавасьці падбадзёрвае.


Падчас прэзэнтацыяў

Пошук месца для сваёй краіны ў агульным эўрапейскім доме працягваецца і ў прадстаўніцтве ЭЗ у Нямеччыне, і ў знакамітым Рэйхстагу. На высокім роўні эўрапейскай дыпляматыі канкрэтных адказаў на цалкам канкрэтныя пытаньні ўдзельнікаў – напрыклад, пра праблемы нацыянальных меншасьцяў у Латвіі й Вугоршчыне, пра рэальныя межы Эўропы, пра лёс Калінінграду – няма. Ёсьць толькі дыпляматычныя адказы. Сьцены Рэйхстага, хоць яны і даступныя кожнаму грамадзяніну (як і мусіць быць у дэмакратычнай дзяржаве), таксама маўчаць. Удзельнікам даводзіцца самім будаваць свой эўрапейскі дом з паперы. Складаецца ён з дзьвюх частак, адна зь якіх – Заходняя Эўропа, а другая – Усходняя і Цэнтральная, а таксама краіны Балтыі. Але падмурак у іх адзіны: свабода, асноўныя правы чалавека, гуманізм. Больш за тое, на кожным роўні між імі пралягаюць масткі: масток узаемнай адказнасьці, масток грамадзянскае актыўнасьці... Гэты дом, зьлеплены клейкім алоўкам, ёсьць вынікам сумеснае працы, інтэграцыі паміж удзельнікамі, якая дасягае свайго апагею на разьвітальнай вечарыне.


Некаторыя ўдзельнікі канфэрэнцыі

Вяртаючыся дахаты, я згадваю канфэрэнцыю й думаю пра эўрапейскую будучыню Беларусі. Ці магчымая яна? У цягніку "Бэрлін–Варшава" заходзіць нямецкі памежнік і просіць паказаць пашпарт. Доўга разглядае шматлікія візы й абмяркоўвае нешта са сваім калегам. Відаць, некаторыя пячаткі ён бачыць упершыню. І гэта ня дзіўна – яму, эўрапейцу, яны не патрэбныя. А мы, беларусы, хіба не грамадзяне? Адказ напрошваецца сам сабою: год праз 30, можа, і будзем, а пакуль... ■







Оркі

# Фідо як...

*"Ідуць два сабжы па пляжы..."*
*Показка пра грузінаў, перадрукаваная адной газэтай зь Фідо без уліку слэнгу*

*У сяму на сьвеце ёсьць альтэрнатыва. А ці існуе альтэрнатыва Інтэрнэту? Так! Гэта Фіданэт, альбо Фідо. Ну, калі й не альтэрнатыва, то вельмі прыемны дадатак ;-)*

*Фіданэт – агульнадаступная, бясплатная кампутарная сетка, якая зьлучае сотні тысяч карыстальнікаў практычна ўва ўсіх краінах сьвету. Гэты артыкул – спроба распавесьці пра Фідо.*

## Фізычная структура Фіданэту

***Хто зрабіў з мухі слана – хай сам яго й корміць.***
*Зь Фідо*

Як любая сетка, Фіданэт складаецца з вузлоў – кампутараў, абсталяваных мадэмамі. Кожны вузел мае сваю адрасу. Уся тэрыторыя, ахопленая Фіданэтам, падзяляецца на зоны, а тыя, у сваю чаргу, на рэгіёны (Беларусь, прыкладам, сорак пяты рэгіён другой зоны – Эўропы).

Сетка Фідо мае гіерархічную структуру. Самыя шматлікія ўдзельнікі сеткі, пойнты – найніжэйшы ўзровень гіерархіі (хаця, шчыра кажучы, пойнты наагул ня лічацца ўдзельнікамі сеткі). Пойнт – гэта кампутар, які раз ці некалькі разоў за содні зьвязваецца з вузлом-нодам, забірае новую пошту і аддае пошту, напісаную карыстальнікам гэтага кампутара (асаблівасьць Фідо – даволі марудны, у параўнаньні зь Інтэрнэтам, зварот пошты). Нода – наступны ўзровень гіерархіі – кампутар, даступны па тэлефоннай лініі ў пэўны час содняў (звычайна ўначы). Ноды перасылаюць пошту па ланцужку – ад адной ноды да другой. Такім чынам, пойнты розных нодаў могуць міжсобку абменьвацца інфармацыяй. Бос – нода, на якой "вісіць" дадзены пойнт. Наступны ўзровень гіерархіі – хаб – кампутар-каардынатар, які забясьпечвае поштай вялікія групы нодаў і курыруе іхнюю працу. Далей у гіерархіі знаходзяцца сеткавы каардынатар (курыруе падсетку – прыкладам, горад), рэгіянальны (курыруе краіну) і занальны (курыруе групу краінаў ці кантынэнт) каардынатары.

Пойнтамі, нодамі, хабамі і гэтак далей завуцца таксама ўдзельнікі сеткі, гаспадары аднайменных кампутараў.

## Лагічная структура Фіданэту

***Паспрабуй засьні, калі ў табе сьпіць геній!***
*Зь Фідо*

Якім чынам зарганізаваная фіданэтаўская пошта?

Усю пошту ўмоўна можна падзяліць на асабістую (netmail, "мыла", "асабістае мыла") і рэхаканфэрэнцыі (рэхі). Netmail – гэта паведамленьні, якія вы можаце перадаваць іншым карыстальнікам Фіданэту ці Інтэрнэту ў індывідуальным парадку. Тэматычныя рэхаканфэрэнцыі... Вось тут мусіш задумацца, як растлумачыць, што такое рэха. На кампутар хоць можна пальцам паказаць, а што рабіць з гэтым спарадажэньнем віртуальнае прасторы? Рэха – пэўная сукупнасьць лістоў, якая пастаянна папаўняецца. Усе лісты датычацца нейкай тэмы ("рэхатагу") і даступныя для чытаньня ўсім падпісчыкам рэхі: кожны можа прачытаць любое паведамленьне і далучыцца да гутаркі. Нешта падобнае да дыскусійнага клюбу.

Што можна сустрэць у рэсе? Усё, што заўгодна! Спрэчкі, сваркі, прыватныя меркаваньні, парады адмыслоўцаў, абмен карыснай інфармацыяй, чуткамі й інш.

Колькі словаў пра самі лісты (яны ж – "мэсагі"). Ліст – элемэнтарная часьціна фідошнай пошты. Ліст маркіруецца імем аўтара, імем таго, каму ён прызначаны, тэмай, якой ён датычыцца ("сабжам"), і датай напісаньня. 90% лістоў зьяўляюцца адказамі на іншыя лісты і зьмяшчаюць цытаты. Дарэчы, сукупнасьць лістоў, якія датычацца адной і той жа тэмы і зьвязаныя цытаваньнем, завуць "трэдам". Ліст зьмяшчае службовыя палі, якія фідошнікі з асалодай "юзаюць" для творчага самавыражэньня. Прыкладам, origin, які напачатку меў глыбока тэхнічнае значэньне, па-мойму, даўно ўжо не ўжываецца па прызначэньні, а стаў ▶

свайго роду дэвізам. Рэдка пабачыш фідошніка, які б не зьмясьціў туды забаўных фразачак, кшталту:

*Эпітафія: заплаціў падаткі – сьпі спакойна.*
*Who is DOS? DOS's dead, baby, DOS's dead...*
*Жывот вялікі не АД піва, а ДЛЯ піва...*
*Глюк – гэта калі кампутар гуляецца з намі, а ня мы зь ім.*
*Не сьпяшайцеся ў пекла. Бяз вас не пачнуць...*
*Народ, зручны ў эксплюатацыі...*
*Стары дасьведчаны камікадзэ...*
*Што табе сьніцца, крэйсэр "Аўрора"? (с) З.Фройд.*
*Маё сумленьне чыстае – я ім не карыстаюся.*
*Паглядзеў на сябе ў люстэрка – дрэннае люстэрка...*

А яшчэ ж ёсьць tearline, cookies, вітаньне й подпіс у "рыбе" ліста.

***Правілы і мадэратары.*** Перапіска ў рэсе падпарадкоўваецца пэўным правілам (яны ж – "рулесы"), за выкананьнем якіх сочыць мадэратар ці камадэратар.

Правілы досыць стандартныя. Практычна ўсюды забароненая рэкляма, ненарматыўная лексыка, пустое балаканьне й беспардонныя наезды адно на аднога ("флэйм").

Вось, прыкладам, найболей тыповыя для фідошных рулесаў палажэньні з правілаў рэхі BEL.SEX.

"Гэтая канфэрэнцыя прызначаная толькі для сяброўскіх гутарак. Любая яўная непавага да свайго суразмоўцы й ягонага меркаваньня ёсьць парушэньнем правілаў паводзінаў у рэсе. Афіцыйныя мовы канфэрэнцыі – беларуская і расейская.

Гэтая канфэрэнцыя прызначаная для:

- абмеркаваньня пытаньняў, зьвязаных з сэксам;
- аб'яваў кшталту "пазнаёмлюся" з мэтай знайсьці сабе "другую палову";
- абмеркаваньня pickup'у і наступнага спакушэньня;
- рассылкі тэкстаў на тэму канфэрэнцыі (просьба дасылаць на фільтрацыю);
- абмеркаваньня ўсяго астатняга, што адпавядае тэматыцы рэхаканфэрэнцыі, не забароненае і не ўваходзіць у афтопік-ліст.

Забароненым ёсьць:

- напісаньне ліста на мове, адрознай ад афіцыйна абвешчанай;
- абразьлівае стаўленьне да суразмоўцаў;
- ужываньне нецэнзурных выразаў;
- камэрцыйныя паведамленьні;
- асабістае ліставаньне;
- безьзьмястоўныя лісты;
- прапаганда наркотыкаў;
- публікацыя парадаў, якія шкодзяць здароўю;
- зьмяшчэньне паведамленьняў, якія ганьбяць кагосьці;
- самавольнае мадэраваньне;
- адкрытая пагарда да правілаў беларускай і расейскай моў і/ці яўная непісьменнасьць;
- крыкі "мадэратар, кінь рулесы";
- напісаньне ліста зь левага адрасу;
- нарушэньне дзейнага заканадаўства".

***Назвы і тэматыка.*** Ёсьць шмат рэхаканфэрэнцыяў, прысьвечаных самым розным тэмам: ад шлюбных паводзінаў кошак да асаблівасьцяў настройкі Вінды. Пра тэматыку рэхі, рэгіянальную прыналежнасьць і статут у сетцы можна даведацца зь яе назвы. Прыкладам, bel абазначае беларускую рэху, ru – расейскую, su – паўднёвы Урал. Pvt абазначае прыватную рэху.

Вось, для прыкладу, назвы некаторых беларускіх рэхаў:

BEL.SEX – назва кажа сама за сябе;
BEL.FLAME – рэха прысьвечаная таму самаму "флэйму", пра які мы казалі вышэй. Вось ужо дзе можна адвесьці душу!
BEL.LAW – навіны заканадаўства, юрыдычныя пытаньні;
BEL.POL – размовы пра палітыку;
BEL.PHILOSOPHY – рэха, прысьвечаная філязофіі;
BEL.BEER – піва і ўсё, што зь ім зьвязанае;
BEL.BABY – дзеці й дагляд за імі.

Стварыць канфэрэнцыю можа практычна любы чалец сеткі. Са згоды "боса", зразумела.

## Фідо як субкультура

***Ня варта замяняць прыемнае карысным...***

*Зь Фідо*

Тое, што існуе фідошная субкультура, для мяне факт бясспрэчны. Яе субстрат – удзельнікі Фідо – даволі ўстойлівая супольнасьць, якая інтэнсіўна камунікуецца міжсобку. Як правіла, гэта людзі з вышэйшай адукацыяй (ці студэнты), якія маюць дачыненьне да кампутараў, даволі маладыя (раней за 1960 год нарадзіліся лічаныя адзінкі, а асноўная маса прысутных цяпер у сетцы нарадзіліся ў сямідзясятыя ці напачатку васьмідзясятых) і, на жаль, збольшага мужчыны. З таго, што асноўная маса належыць да адзінай дэмаграфічнай і эканамічнай групы, вынікае падабенства поглядаў на жыцьцё і шэраг агульных інтарэсаў; ідэалягічнае, калі не адзінства (у Фідо заўсёды знойдзецца пра што і з кім паспрачацца), то падабенства. На мой погляд, фідошную тусоўку можна назваць люстрам і кузьняй ідэалёгіі сярэдняе клясы. Калі паспрабаваць вылучыць нейкую агульную ідэалягічную дамінанту беларускага Фіданэту, дык гэта, здаецца, лібэралізм. Альбо анархізм.

Фідошная субкультура надае адметнасьці ў першую чаргу мове й манэры камунікацыі. Існаваньне фідошнага слэнгу бясспрэчнае. Акрамя таго, існуе свой спэцыфічны стыль камунікацыі. На фармаваньне таго фідошнага стылю, на мой погляд, паўплывалі тры падставовыя факты. Па-першае, марудны зварот пошты; па-другое, адсутнасьць ананімнасьці: у полі from ("ад каго") у большасьці рэхаў ставіцца сапраўднае імя; па-трэцяе, нефармальны сяброўскі стыль размоваў, прыняты ў большасьці рэхаў. Вынік – высокая (раўняючы зь інтэрнэтаўскім чатам ці вусным балаканьнем) інтэлектуальнасьць і, калі-нікалі, мастацкая каштоўнасьць лістоў. Пошта адпраўляецца рэдка, калі "маеш час і натхненьне". Можна практычна бясконца ўдасканальваць свае лісты, каб яны былі як мага болей чытэльныя, прыцягвалі ўвагу, стваралі добрае ўражаньне. Напісаньне лістоў у Фідо – занятак надзвычай творчы, які дазваляе зазірнуць у сябе й перагледзець свае погляды на жыцьцё.

## Як далучыцца да гэтай весялухі

***Усе людзі браты, але ня ўсе – па розуме.***

*Зь Фідо*

Самы просты й пашыраны спосаб трапіць у сетку – цераз сяброў. Трэба адшукаць у сваім блізкім ці далёкім атачэньні фідошніка і ўгаварыць, каб ён замовіў за вас слоўца перад сваім "босам" і дапамог наладзіць праграмы, неабходныя для працы ў Фідо. І – посьпехаў вам у пошуках братоў па розуме!

■







# Фізіягноміка

*Аляксандра Трацьцяк*

*Фізіягноміка як мастацтва чытаньня твару склалася ў глыбокай старажытнасьці. Радзімай усходняй фізіягномікі лічыцца старажытны Кітай. На Захадзе гэтае мастацтва найбольш шырока распаўсюдзілася ў старажытнай Грэцыі. Аднак усходняя фізіягноміка адрозьніваецца ад заходняй.*

Кітайскія гістарычныя аналы перапоўненыя жыцьцяпісамі імпэратараў і мудрацоў. Учынкі гэтых людзей суадносіліся з асаблівасьцямі іх знешнасьці – галоўным чынам, твару. Кожнай прыкмеце надавалася цалкам канкрэтнае значэньне. Так паступова складаецца мастацтва чытаньня твару.

Прызнанымі майстрамі гэтае справы на Ўсходзе лічыліся канфуцыянскія маралісты. Іхняя этычная сыстэма прадугледжвала выхаваньне павагі да бацькоў, прыстойнасьці, адданасьці гаспадару, вернасьці ўладзе і г.д. Наяўнасьць альбо адсутнасьць тых якасьцяў канфуцыянцы імкнуліся выявіць па твары. Таму яны настойліва распрацоўвалі прыёмы чытаньня рысаў твару.

З часам кітайскія фізіягнамісты ўзьнялі сваё мастацтва на пэўную вышыню, стварылі адмысловыя трактаты, якія пазьней распаўсюдзіліся ў розных краінах Усходу. Былі яны завезеныя і ў Японію. І хоць сёньня нельга сказаць, што ў Японіі спрэс захапляюцца фізіягномікай, уплыў яе прасочваецца ў жывапісе, вытворчасьці масак, тэатры, розных сфэрах зносінаў. У чым жа іста японскае фізіягномікі?

Твар можна чытаць двума спосабамі: шляхам назіраньня збоку і ў працэсе гутаркі. Другі спосаб больш прымальны. У абодвух выпадках асаблівую важнасьць мае форма твару. Японцы адрозьніваюць выцягнутую, трохкутную, трапэцыяпадобную, квадратную і круглую формы.

Выцягнуты твар – гэта своеасаблівы прастакутнік. Шырына лба такая самая, як і шырыня падбародзьдзя. Гэта так званы арыстакратычны тып. Японскія фізіягнамісты сьцьвярджаюць, што большасьць кіраўнікоў Японіі мела такі кшталт твару. Выцягнуты твар – сьведчаньне інтэлекту, чуласьці, ураўнаважанасьці. Нярэдка "гаспадар" гэткага твару разважлівы й прагматычны. Кажуць, што такія людзі маюць арганізатарскі талент.

Для трохкутнага твару ўласьцівы высокі шырокі лоб, выбітныя скулы, дробны, але ж касьцісты нос, глыбока пасаджаныя вочы, невялікае падбародзьдзе, якое зьлёгку выступае. У зоне між скуламі й падбародзьдзем на такім твары мала плоці. Лічыцца, што мужчыну альбо жанчыне з такім тварам уласьцівая глыбокая пачуцьцёвасьць. Трохкутная форма твару ў Японіі ўспрымаецца як прыкмета адоранасьці. Разам з тым у характары чалавека з гэткім тварам японцы адзначаюць і такія рысы, як хітрасьць ды няўрымсьлівасьць. Такія людзі, лічаць фізіягнамісты, ня схільныя да прывязанасьці й адданасьці. Кажуць, сярод шпіёнаў і здрайцаў больш за ўсё людзей з трохкутным тварам.

Твар у выглядзе трапэцыі мае шмат агульнага з трохкутным. Для гэтага тыпу твару характэрны шырокі лоб і зьлёгку звужанае (але не завостранае) падбародзьдзе. Лічыцца, што чалавек з такім тварам ёсьць інтэлігентным і артыстычным. Яму зусім не ўласьцівы дух барацьбіта. Жанчыны з тварам у форме трапэцыі адрозьніваюцца ▸

аптымізмам і ствараюць прыемную атмасфэру вакол сябе.

Квадратны кшталт твару звычайна належыць сувораму, мужнаму, часам нават жорсткаму. Такія людзі зазвычай адкрытыя, прамалінейныя й настойлівыя. Самай выбітнай рысай іхняга характару ёсьць рашучасьць. Зь іх атрымліваюцца неблагія выканаўцы, хоць самі яны настойліва імкнуцца да лідэрства. Жанчыны з такой формай твару адрозьніваюцца прагай да дамінаваньня.

Круглы твар асацыюецца ў Японіі з дабрадушнасьцю, мяккасьцю і міралюбствам. Нярэдка людзі з круглым тварам – гурманы. Яны любяць камфорт і добрую кампанію, ня прагнуць славы. Разам з тым такім людзям не чужая й пыха. Калі ж у чалавека з круглай формай твару высокае пераносьсе, выбітныя скулы і да таго ж палкія вочы, яго лічаць мэтаскіраваным. З такіх людзей, кажуць фізіягнамісты, атрымліваюцца добрыя лідэры й ваяры.

Японская фізіягноміка базуецца на сыстэме ўзроставых пазыцыяў, г. зн. твар ацэньваецца праз прызму ўзросту. Таму перад пачаткам чытаньня твару рэкамэндуецца абавязкова вызначыць узрост аб'екта. Да таго ж трэба ўлічваць той факт, што ў выніку апэрацыяў ці траўмаў твар можа часткова зьмяніцца. Тут дапамагаюць прыёмы ацэнкі паводзінаў аб'екта. Лічыцца, што варта зьвяртаць увагу на ўсьмешку, жэсты й паставу.

Усьмешка дапамагае згледзець прыхаваныя пад маскай твару сапраўдныя рысы характару. Жэсты адчыняюць перад назіральнікам канкрэтныя перажываньні людзей і дапаўняюць зьвесткі пра іхні характар. Пастава часта сыгналізуе пра самыя глыбінныя асаблівасьці псыхікі. Аднак усё гэта, мяркуюць японцы, надзвычай няпроста. Мастацтву чытаньня твару, як і любым іншым відам мастацтва, у Японіі навучаюцца цярпліва, настойліва й доўга. ■

Вольга Цяцёркіна

# Галоўнае пачуцьцё

***Кахаць – гэта значыць глядзець не адно на аднога, а глядзець разам у адным кірунку.***

*Антуан дэ Сэнт-Экзюпэры*

*Як зь цёплым надвор'ем мяняюцца людзі! Мы пачынаем нашмат больш уважліва глядзець на прадстаўнікоў іншага полу, ды так, што амаль ні на што іншае часу не застаецца. Закідаюцца ў цёмны кут падручнікі, пусьцеюць студэнцкія аўдыторыі, і навучэнцы перабазоўваюцца ў тусовачныя месцы: інтэрнаты, паркі, кавярні...*

Лёгкі флірт настолькі актыўна лётае ў паветры, што яго можна зафіксаваць радыёлякатарамі. Позіркі робяцца ўсё больш выразнымі. І самыя шчасьлівыя раптам адчуваюць незвычайнае – каханьне. Тады пачынаеш заўважаць, што сьвет наўкола зьмяніўся, што ў тваёй галаве – лёгкае ачмурэньне ці, наадварот, усё надзвычай проста і зразумела. Вось ужо сапраўды, "жарсьці надаюць розуму самым дурным і робяць дурнямі самых разумных", – заўважыў калісьці Сэнэка.

Кажуць, што каханьне як зьява ўзьнікла тады, калі чалавек адмовіўся ад шматлікіх партнэраў і стаў выбіраць аднога. Насамрэч, калі ўсе патэнцыйныя партнэры былі даступныя, пра якое высокае пачуцьцё магла ісьці гаворка...

Каханьне – гэта адчуваньне самаахвярнае сардэчнае прывязанасьці. Існуюць тры любоўныя стылі: eros (жарсьць), ludus (гульня) і storge (сяброўства), якія камбінуюцца і ствараюць тое, чым жывуць закаханыя. Адзін з трох чыньнікаў можа пераважаць, але ўсе тры абавязкова прысутнічаюць у любоўных стасунках.

## Тэорыя каханьня–жарсьці

Існуе шэраг тэорыяў, аб'ектам якіх ёсьць каханьне. Адна зь іх – тэорыя каханьня-жарсьці. Гэты стан выяўляецца ў непераадольным жаданьні спалучыцца з каханым чалавекам. Калі такое пачуцьцё двухбаковае, то людзі перапаўняюцца шчасьцем, у іх зьяўляецца жаданьне працаваць, ствараць нешта грандыёзнае, шукаць новую Амэрыку і ляцець да зор. Яшчэ Авідый казаў, што быць закаханым – значыць быць у шаленстве пры здаровым розуме.

Калі ж моцная жарсьць, на бяду, апаноўвае толькі аднога, то ягоная псыхіка парушаецца, і гэты стан можа прывесьці, чаго добрага, да самазьнішчэньня. Такое пачуцьцё спустошвае людзей, прыводзіць іх у адчай.

Палкае каханьне – гэта псыхалягічнае й фізіялягічнае ўзбуджаньне. Яно выклікаецца чалавекам, якога мы лічым надзвычай прывабным. Фізіялягічна фіксуюцца моцнае тыханьне сэрца й дробныя дрыготы ў руках.

Што ж уплывае на ўзьнікненьне гэтага пачуцьця? У першую чаргу – даступнасьць, прывабнасьць, падабенства й прыхільнасьць да нас. Ураджаньні, якія фармуюцца пры першых спатканьнях, шмат у чым зьяўляюцца ключавымі, і менавіта ад іх залежыць характар далейшых стасункаў. Першае ўражаньне трымаецца два месяцы, так што заўсёды сачыце ня толькі за вонкавасьцю, але й за словамі, рухамі і жэстыкуляцыяй у часе першых спатканьняў...

## Як зрабіць уражаньне?

Існуе два спосабы зрабіць уражаньне на патэнцыйнага партнэра. Некаторыя людзі, асабліва тыя, каму ўласьцівы высокі самакантроль, умела выстройваюць свае паводзіны, каб уразіць патрэбным чынам у канкрэтнай сытуацыі. Іншыя, асабліва зь нізкім пачуцьцём самакантролю, кіруюцца хутчэй унутранымі імпульсамі і часта сьцьвярджаюць, што гэта прыводзіць да жаданага выніку.

Жанчыны больш схільныя факусаваць увагу на інтымнай давяральнасьці стасункаў і на неабходнасьці клапаціцца пра свайго партнэра. Прычым знаўца жанчын спадар П. Дэкурсэль адзначае, што "так" – слова, якое жанчыны лягчэй вымаўляюць вачыма, чымся вуснамі. (Таму ня надта зважайце, хлопцы, на тое, што дзеўчына кажа, глядзіце глыбей). Мужчын жа больш займае гульнёвы й фізычны бакі іхных стасункаў.

## Дынаміка ў каханьні

Напачатку ўсялякіх любоўных стасункаў паўстае Сымпатыя. Гэта добрая ўстаноўка да іншага чалавека, якая ўзьнікае пры першае сустрэчы. На гэтай стадыі характэрнай зьяўляецца наступная памылка: нам здаецца, што калі чалавек прыгожы, значыць, ён і разумны, і файны, і адукаваны і інш. Часта гэны стан характарызуюць як каханьне зь першага погляду, то бок першасны сэксуальны поцяг, які не асэнсоўваецца чалавекам.

Сымпатыя можа згаснуць ці перайсьці ў Закаханасьць. Закаханасьць – гэта нясьпелае пачуцьцё каханьня. Гэта пачуцьцё, якое на нейкім этапе можа быць вельмі глыбокім і накіраваным на асобу ў цэлым, але яно не праяўляецца адкрыта. Гэта стан, калі адбываецца ідэалізацыя прадмэта закаханасьці.

Рамантычнае каханьне ўзьнікае тады, калі пачуцьці чалавека пачынаюць уплываць на ягоныя паво-дзіны. Найперш гэта выяўляецца ў нецярплівасьці й імкненьні авалодаць прадмэтам сваёй жарсьці.

Калі цесная сувязь працягваецца, яна робіцца больш роўнай і ўстойлівай. Каханьне трансфармуецца ў Любоў-Сяброўства – глыбокую й пяшчотную прыхільнасьць, якая грунтуецца на агульных інтарэсах.

Але ў некаторых выпадках каханьне нагадвае прызвычайваньне да кавы, алькаголю ці іншых стымулятараў. Першапачаткова такія сродкі выклікаюць узбуджаньне, часам нават вельмі моцнае, але пры пастаянным ужываньні ўзмацняюцца процілеглыя эмоцыі, што й выклікае прызвычайваньне. Доза, якой раней было цалкам дастаткова, ужо не ўзбуджае, аднак адмова ад прыёму стымулятара не вяртае вас у папярэдні стан. Да таго ж, навідавоку і "пабочныя эфэкты": дэпрэсія, хваробы й іншыя непрыемнасьці.

Бывае, што ў некаторых занадта закаханых істотаў праяўляецца эгаізм у выглядзе Рэўнасьці. Рэўнасьць – гэта сумневы ў вернасьці іншага чалавека. Але псыхолягі кажуць пра яшчэ больш глыбокую прычыну – страх адзіноты. Досьвед паказвае, што там, дзе пануе эгаізм, каханьня ўжо няма, таму што чалавек, які зазнаў сумневы, ня здольны напоўніцу выяўляць станоўчыя пачуцьці. Часта дзяўчаты ганарацца, што іхнія хлопцы іх кантралююць: тэлефануюць кожныя пяць хвілінаў, падрабязна распытваюць, да якой гэта сяброўкі тая хадзіла і чым гэта можна было займацца так доўга. Нічога добрага псыхолягі ў гэтым ня бачаць. Несупынны кантроль не дае спакою назіральніку, дый аб'екту назіраньня раней ці пазьней надакучвае. Лепш, наколькі гэта магчыма, пазьбягаць разгараньня рэўнасьці.

Але ня будзем пра сумнае. Лепей памятайма, што калі яшчэ няма побач каханага чалавека, то ён абавязкова зьявіцца. Героям чароўных казак заўсёды даводзілася змагацца з тысячай цяжкасьцяў, каб напрыканцы атрымаць тое, **самае галоўнае.** І на ўсё жыцьцё... ■

**Заўтра іспыт?**
**Няма канспэкту?**
**Забудзься на гэтыя дробязі!**

# Сядзь і напішы

## артыкул на конкурс "Студэнцкай думкі". Конкурс ладзіцца па трох намінацыях:

Намінацыя першая – **лепшы артыкул.** Тэмы для напісаньня артыкулаў:

- *Моладзевыя тусоўкі й групоўкі (панкі, гіпі, байкеры, ролеры, скінгэды...).*
- *Асьцярожна, інтэрнат! Карысныя парады па выжываньні ў месцах масавага згуртаваньня студэнтаў. Праблемы інтэрнатаў: цесната, канфлікты, п'янства і г.д.*
- *Графіці на вулках нашых гарадоў (а таксама народная творчасьць – надпісы на сьценах, платах, прыпынках). Хто й чаму гэтым займаецца?*
- *Жыцьцё звонку і ўнутры: прыхаваныя псыхалягічныя матывы нашых паводзінаў.*
- *Самы прыкольны студэнт вашае ВНУ.*

Намінацыя другая – **лепшы малюнак.** Распрацуй і дашлі нам маляваны вобраз беларускага студэнта. Уключы ўяўленьне! Лепшыя малюнкі – як, вядома, і лепшыя артыкулы – будуць друкавацца ў наступных нумарох "CD".

Намінацыя трэцяя – **показкі й сьмешкі са студэнцкага й моладзевага жыцьця.**

**Пераможцы** конкурсу атрымаюць унікальную магчымасьць супрацоўнічаць са "Студэнцкай думкай". Да таго ж, іх чакаюць **шыкоўныя прызы ад "CD" і BMAgroup!**

**Сэсія мінецца – "CD" застанецца!!!**







*Андрусь Клікуноў*

# Беларус, у Эўропу!

*Эх, мала нашага брата езьдзіць па замежжы – то грошай няма, то жаданьне адсутнічае. Некаторым, да таго ж, і страшнавата бывае: наглядзяцца ў сваіх Старых Дарогах розных нафталінавых "спружынаў" і "рэзанансаў" па БТ – і якая ўжо там Эўропа! Хавайся ў бульбу!*

Ня надта мабільныя мы з вамі, сябры мае, што ні кажы. А дарма: праз усё лета стоячы карчом на абрыдлым гародзе альбо лежачы на канапе, утаропіўшыся ў "лупатую скрыню", можна праспаць, бадай, і ўсё жыцьцё маладое, поўнае незабыўных уражаньняў і неверагодных прыгодаў.

Хто ж, як ня мы, беларуская моладзь, мусіць патлумачыць эўрапейцам, хто мы такія, чым адрозьніваемся ад расейцаў і палякаў, распавесьці пра нашую старажытную гісторыю, культуру, пра нашыя адметныя традыцыі, пра нашых славутых землякоў? Хто, як ня мы, мусіць рашуча й безапэляцыйна сьцьвердзіць замежнікам, што мы жывем у незалежнай **Беларусі**, а ня ў нейкай прывіднай "Б'еларашы", "Вайсэруслянд" ці "Белай Расеі"?

**Наперад жа, у прыязную Эўропу!**

Калі ў файнай моладзевай кампаніі хочаце наведаць розныя замежныя краіны – далучайцеся да Моладзевага Інфармацыйнага Цэнтру і непасрэдна да Клюбу Экстрэмальных Моладзевых Падарожжаў (КЭМП), утворанага нядаўна для сябраў МІЦ – уладальнікаў беларускай вэрсіі моладзевай карты зьніжак EURO<26.

Сёлета напачатку траўня адбылася першая двухдзённая вандроўка КЭМПаўцаў у Варшаву. Пра гэта, дарэчы, Вы можаце прачытаць у артыкуле Тацяны Сапегі, непасрэднай удзельніцы падарожжа. А наступная выправа плянуецца напрыканцы чэрвеня. Мэта – Чэхія. Сардэчна запрашаем!

Калі ж Вы жадаеце самастойна спасьцігаць таямніцы матулі-Эўропы, Вам проста абавязкова спатрэбіцца вялікая колькасьць канкрэтнай практычнай інфармацыі пра краіны, у якія Вы накіроўваецеся: як туды даехаць, як знайсьці танны моладзевы інтэрнат альбо турыстычны табар, дзе можна нядорага, але грунтоўна пад'есьці, якія славутасьці, музэі, тэатры, нацыянальныя паркі і г.д. трэба абавязкова наведаць, як працуе грамадзкі транспарт, што рабіць у непрадбачаных абста-вінах, як стаць студэнтам ды атрымаць стыпэндыю на навучаньне, што трэба ведаць, каб працаваць у канкрэтнай эўрапейскай краіне, ды шмат чаго іншага.

Па кансультацыі, калі ласка, зьвяртайцеся на МІЦ. Калі ж Вы добра ведаеце ангельскую ці нацыянальную мову краіны, якую маеце наведаць, абавязкова зазірніце на агульнаэўрапейскі Інтэрнэт-партал **INFOMOBIL** па адрэсе: **http://www.eryica.org/infomobil**.

Тут прадстаўленая вычарпальная практычная інфармацыя для маладых падарожнікаў па наступных 22 краінах: Аўстрыя, Ангельшчына, Бэльгія, Вугоршчына, Гішпанія, Грэцыя, Данія, Італія, Ірляндыя, Люксэмбург, Нарвэгія, Нідэрлянды, Нямеччына, Паўночная Ірляндыя, Партугалія, Румынія, Славенія, Фінляндыя, Францыя, Чэхія, Шатляндыя й Швэцыя.

***Увага! Зь 15 чэрвеня 2001 году ў віртуальным этэры гэтага парталу зьявіцца й беларуская частка ў беларускамоўнай ды ангельскамоўнай вэрсіях. Ласкава запрашаем!***

Тацяна Сапега, здымкі Андруся Сяргеева

# Навіны карткі EURO<26

***Навіна першая,** зь якой вынікае, што для файнай вандроўкі неабходныя дзьве рэчы: добрая кампанія й картка EURO<26!*

Нарэшце надышоў час сапраўднага цяпла й сонца, а значыць – вандровак! Выседзець дома ўжо проста немагчыма! Уладальнікі карткі EURO<26 распачалі гэты "летні сэзон" вандроўкаю ў Варшаву, што была зарганізаваная Моладзевым Інфармацыйным Цэнтрам (МІЦ). МІЦ зьяўляецца адзіным прадстаўніком карткі EURO<26 на Беларусі і сёлета распрацоўвае праграму вакацыйных групавых паездак у Польшчу, Чэхію й іншыя краіны Эўропы. Перавага такіх паездак – перш за ўсё ў іх кошце, бо картка EURO<26 дапамагае маладым людзям атрымаць зьніжкі пры карыстаньні паслугамі гатэляў, клюбаў, дыскатэк, транспартных сетак і г.д.

У Варшаву выправілася група маладых людзей, уладальнікаў карткі EURO<26, якіх злучае любоў да вандровак, прыгодаў, жаданьне наведаць замежную краіну, паглядзець на заходніх суседзяў ды сябе паказаць. Што й казаць, Варшава ўвесну ўражвае! Паўсюль – кветкі, зеляніна, у паветры лунае сьвежасьць, лёгкасьць, радасьць жыцьця! За два дні вандроўкі пабачылі шмат. Шпацыравалі па самых прыгожых частках гораду – Старым горадзе (Stare Miasto) і Новым горадзе (Nowe Miasto). Зь цікавасьцю й зайздрасьцю агледалі адрэстаўраваныя гістарычныя комплексы і будынкі, што набылі свой першапачатковы вонкавы выгляд. Ужо ў часы сярэднявечча тут ўзводзіліся камяніцы з аркавымі вокнамі. Але рэстаўрацыя вялася паводле дакумэнтаў XVII—XVIII стагодзьдзяў, якія зьмяшчалі апісаньні архітэктурных элемэнтаў. Таму сёньня пераважаюць будынкі ў стылі барока і, у меншай ступені, позьняга Рэнэсансу. Першыя паверхі дамкоў, паводле традыцыі XIX ст., занятыя крамамі, кавярнямі й рэстарацыямі. Унікальнай атмасфэраю адрозьніваецца Рынак Старога гораду: яе ствараюць прыгожыя старыя дамы, каляровыя парасончыкі, што ўзвышаюцца над столікамі вулічных кавярняў, гандляры сувэнірамі і карцінамі, вулічныя музыкі. Удзень тут віруе турыстычнае жыцьцё, а ўвечары ўсё сьціхае. Толькі на століках шматлікіх кавярняў і рэстарацыяў гараць сьвечкі, нібы запрашаюць цёплым травеньскім вечарам выпіць у адным з найпрыгажэйшых месцаў Эўропы куфаль піва (альбо натуральнага соку)!



Вулкі Варшавы...

Варшаўскі парк Лазенкі – добрае месца для адпачынку, выспа спакою ў цэнтры бурлівага гораду. Тут можна дакрануцца да мінуўшчыны ў выглядзе Палаца на вадзе й Амфітэатра і адначасова пабыць сам-насам з прыродай, паназіраць за паўлінамі і вавёркамі... Беларуская група здолела яшчэ й "забіць трэцяга зайца", зладзіўшы невялікі пікнічок.




Трапілі беларускія "карткаўцы" і ў Вілянаў – загарадную рэзыдэнцыю караля Яна III Сабескага, дзе цяпер месьціцца аддзел варшаўскага Нацыянальнага Музэю. Шыкоўны вонкавы выгляд і інтэр'ер Палаца, а таксама дагледжаны парк нагадалі пра родны Нясьвіж, які б мог стаць сур'ёзным канкурэнтам варшаўскай славутасьці.

Вядома, за два дні мы далёка ня ўсё пасьпелі ўбачыць. Але гэта можа быць добраю падставаю, каб яшчэ не аднойчы вяртацца ў польскую сталіцу.



Парк Лазенкі

Травеньская вандроўка ў Варшаву – першая і, паводле задумаў МІЦ, зусім не апошняя ў гэтым годзе. Таму далучайцеся да нас, і будзем разам з карткаю EURO<26 вандраваць па Эўропе!

**По пытаньнях праграмы групавых вандровак і набыцьця карткі EURO<26 можна зьвяртацца ў Моладзевы Інфармацыйны Цэнтар па тэлефонах у Менску: 219-47-11, 239-31-17.**

***Навіна другая,** зь якой можна зрабіць выснову, што не зьвяліся яшчэ ў Менску добрыя клюбы*

Ці ёсьць у Менску месцы, куды можна пайсьці адпачыць зь сябрамі і паслухаць добрую музыку? Даво-дзіцца толькі марыць пра вялікі выбар моладзевых клюбаў, дзе б гучала "жывая" музыка. Канцэрты адбываюцца пераважна ў вялікіх залях, а калі нават і ў клюбах, то зрэдку і ў атмасфэры пампэзнасьці ды афіцыёзу. Прыкладамі менскіх клюбаў, дзе можна "па-свойску" пасядзець, калісьці лічыліся "Альтэрнатыва" й "Акварыюм". Але – няма таго, што раньш было...



Вілянаў

Каб разьвеяць сум ад гэткага ўступу, распавяду пра добрае месца, дзе можна прыемна й танна адпачыць, а галоўнае – паслухаць добрую музыку ў выкананьні беларускіх гуртоў. Я маю на ўвеце клюб "4 аранжыкі" ("4 апельсина"), што месьціцца ў сутарэньнях ДК Трактарнага заводу (станцыя мэтро "Трактарны завод"). Штотыдня па серадах і пятніцах у клюбе "4 аранжыкі" адбываюцца "жывыя" канцэрты ў межах праекту "Рок-Кавярня". Ладзіць канцэрты Музычная Моладзевая грамадзкая арганізацыя "Беларуская



Палац культуры і навукі



СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • травень 2001

Poly Stories

Рок-Ліга", што была створаная год таму з мэтаю дапамогі маладым рок-музыкам. "4 аранжыкі" сталі для рок-гуртоў пляцоўкаю, дзе можна творча расьці і знаёміць публіку са сваёй музыкай. На сцэне клюбу граюць як знаныя, так і зусім невядомыя музыкі. Усе маладыя гурты праходзяць сур'ёзны адборачны конкурс. Да слухачоў выходзяць толькі тыя, што ўжо дасягнулі значнага ўзроўню прафэсіяналізму. Адзін раз на месяц у клюбе ладзяцца так званыя "Манэўры", калі публіка шляхам галасаваньня выбірае найлепшы гурт.

Зараз у клюбе йдзе праца па абнаўленьні фасаду. У бліжэйшы час будзе зьменены й інтэр'ер. Прэзыдэнт "Беларускай Рок-Лігі" сп.Ігар Жукоўскі запэўніў: "Наведвальнікі ў хуткім часе будуць прыемна зьдзіўленыя". "Аранжыкі" не зьбіраюцца зачыняцца на летнія вакацыі. Наадварот, яны актывізуюць сваю дзейнасьць. Пра канцэртныя праграмы клюбу можна даведацца з афішаў, што вісяць па ўсім горадзе, альбо непасрэдна ў клюбе "4 аранжыкі" (тэл. 289-99-21).

***І галоўнае! Для ўладальнікаў карткі EURO<26 клюб "4 аранжыкі" дае зьніжку на ўваходны квіток у памеры 25%!***


Шчасьлівыя ўладальнікі карткі EURO<26 у Варшаве

*Мікола Шакель, здымкі Тацьцяны Конюх*

# Хто сказаў, што самаезд – не раскоша, альбо Як я хадзіў на "Мотаршоў"


Адзіная мадэль "Mazeratti" на выставе. Затое якая!

*За што я люблю сваю працу, дык гэта за халяву. Канцэрцікі ўсялякія, выставы – ідзі, куды схочаш. Таму калі ў рэдакцыі зьявіліся запрашальнікі на "Мотаршоў", ды яшчэ на VIP-дзень, я адразу за іх ухапіўся. Не скажу, што я вялікі аўтааматар (хутчэй – халявааматар), але ж свой матацыкл даводжу да непрытомнага стану з зайздроснай рэгулярнасьцю. Карацей, выправіўся. 26 красавіка, як зараз памятаю... І ўсё-ткі любяць нашага брата-журналіста! Ці, можа, баяцца? Відавочна адно: сустракалі, як сапраўдную VIP-пэрсону. Нават ахоўнікі ўсьміхаліся. Нягледзячы на тое, што адзіны выходны пінжачок згаданае пэрсоны перад гэтым добранька пакамечылі ў мэтро...*

Яшчэ падчас прэсавай канфэрэнцыі з боку арганізатараў выставы, сябраў Беларускай аўтамабільнай асацыяцыі, адчувалася пэўная нэрвовасьць. Гэта было відаць па фразачках кшталту "Пачувайцеся вольна. Нават у гэтай краіне". Болей за ўсё арганізатары тыя баяліся, што прыйдзе Пажарнік (а вось мяне ў дзяцінстве пужалі Мумай) і зачыніць усё мерапрыемства, спаслаўшыся на тое, што, маўляў, "тут у вас пробачка не па ГОСТу". Што ж, пажарнік, відаць, не прыйшоў. Альбо "пробачку" добрую падабралі. Прынамсі, сьвята атрымалася – як мае быць.


"Renault Laguna"

Дый не магло не атрымацца. Вы толькі ўявіце сабе: бюджэт выставы склаў 150 тысяч даляраў. І гэта без будаўніцтва стэндаў. На арэнду адной толькі "Ferrari" было выдаткавана 12 тысяч "зялёных". Штодня, па самых сьціплых падліках, СК "Уручча" наведвалі 30-35 тысяч гледачоў. А каб пералічыць усе машыны, мне б не хапіла пальцаў на руках і нагах, нават калі б мяне мэтадам клянаваньня памножылі ўтрая. Аўтадылеры прывезьлі на выставу ня нейкае там ламачча з польскіх ды нямецкіх рынкаў, а самыя новыя мадэлі з тых, што даступныя ў Беларусі. Тут вам, калі ласка, і практычная карысьць ад "Мотаршоў": паглядзіш на самаезды, і адразу ведаеш, на чым твае прасунутыя суайчыньнікі катаюцца. Былі й аўтамабілі, прэзэнтаваныя ў нашай краіне ўпершыню. Сярод гэтых "пярлінаў", натуральна, вылучаліся ўжо згаданая "Testarossa", новы "Volkswagen Passat GP", "Scoda Fabia Combi", новая "Audi A2", "Nissan Maxima QX"... Усяго не пералічыш. Дый ці варта? Гэта трэ было бачыць.

Дарэчы, у назве выставы часьцінка "шоў" збольшага сябе апраўдала. Ці не на кожным стэндзе ладзіліся прэзэнтацыі самых выбітных мадэляў. На пляцоўцы "Юкола-сэрвіс" танчылі гангстэры (машыны ж – амэрыканскія); на стэндзе "Mazda" амаль насамрэч здымаўся фільм пра Дракулу, у якім галоўную ролю, відаць, даверылі нейкаму студэнту, такі ён быў худзенькі і так натуральна глядзеліся на ягоным твары цені пад вачыма; на "Suzuki" каратэка з завязанымі вачыма сек мечам яблыкі на грудзёх сваёй беднай асыстэнткі. Мяне ж літаральна дабіла прэзэнтацыя новага "Passat'a". Словамі гэта не перадаць. Тут папрацаваў прафэсійны рэжысэр.


Самы малады кіроўца на Беларусі

З сапраўдных жа VIP-пэрсонаў – паводле маёй уласнай клясыфікацыі – мне ў той "VIP-дзень" натрапіўся Ігар Варашкевіч, фронтмэн "Крамы". Хадзіў усё па стэндзе "Volkswagen", нешта сабе замалёўваў. Добра так маляваў, па ўсім відаць – адмыслоўца. Перакінуліся мы зь ім двума словамі. Нішто, кажа, выстава... А яшчэ нечакана давялося пазнаёміцца зь Пётрам Ворсікам, кіроўцам легендарнага беларускага трохвоснага баевіка "МАЗ Яравіт". Гэткі вясёлы вусаты дзядзька. Нават у сваім танку дазволіў пасядзець. Адчуваньні – як за штурвалам самалёта. Толькі вось каб залезьці ў спартовы "МАЗ", трэба мець грунтоўную фізычную падрыхтоўку.

З экспанатаў выставы найбольш моцныя ўражаньні – ад "Mazeratti" і "Chevrolet Tahoe". У першай спадабаўся дызайн, у другой – прадуманасьць салёну й моцная акустычная сыстэма. І трэба ж было, каб якраз тады, калі я засеў за баранку гэтай "Шэўралейкі", на відэа круціўся канцэрт "Мэталікі" з аркестрам! Вось гэта гук! Нейкія там "долбі" і побач не валяліся! Калі б не мажная кабеціна, што



Кабрыялецік "Peugeot 206"

звонку пачала выяўляць прыкметы нецярплівасьці (мабыць, таксама прыхільніца "Мэталікі"), я б, відаць, дагледзеў канцэрт да пераможнага канца. А яшчэ ўразіў салён у "Fiat Punto". Я нават і ўявіць сабе ня мог, што ў такой драбнатулечцы можа быць столькі прасторы! Праўду кажуць псыхолягі, што з комплексаў заўсёды разьвіваюцца выбітныя якасьці. Колькі ні рэгуляваў седзіва ў той самай "Фабіі", а каленкі ўсё адно падпіралі панэль (хоць ростам Бог не пакрыўдзіў!). А тут – сеў і прыкіпеў. Тыя ж вар'яты, якія спрабавалі залезьці ў "Ferrari", проста пазьбівалі сабе лбы: такое ўражаньне, што на заводзе гэтую мадэль добранька патрушчылі пад прэсам. А вось у самаездах "Daewoo" вельмі зручная прыборавая панэль. А яшчэ ў "Mazda 626" надзвычай утульна. А яшчэ...

Натуральна, як і кожны праныра-журналюга, не магу абысьці й адмоўныя моманты выставы. Па-першае, кандышн у залі быў настолькі благі, што атмасфэра часам прагравалася да тэмпэратуры зьнешняй абалёнкі Сонца. Некаторыя наіўныя суб'екты (гэта ўжо з маіх пазьнейшых назіраньняў) выскоквалі на вуліцу, каб падыхаць сьвежым паветрам... і ўжо не маглі вярнуцца ў залю: у квітку была прабітая вялі-і-зная дзірка! І каб не фуршэт з напоямі ў першы дзень... Але фуршэт – гэта таксама дрэнна. Прынамсі, назаўтра я чамусь ад самага ранку зрабіўся гарачым прыхільнікам здаровага ладу жыцьця. Ну, і трэцім пунктам "чорнага сьпісу" ідуць... дзяўчаты. Так-так, дзяўчаты з мадэльных агенцтваў, якія стаялі (хадзілі, круціліся, сноўдалі) ля аўтамабіляў і адцягвалі на сябе ўсю ўвагу. Менавіта праз іх, нехарошых, я так і ня здолеў разглядзець некаторыя мадэлі. Толькі падсунесься, а тут *такое*! Куды ўжо гумовым крывулінам замежных жалезных прыгажуняў да пекных ножак нашых суайчыньніц! Таму й "праца з кліентам" на выставе шмат у чым нагадвала гульню: сядаеш у які-небудзь "Nissan", а да цябе падвальвае гэткая краля і пачынае міленька так усьміхацца, паралельна выдаючы цэлую тыраду пра тэхнічныя характарыстыкі й вартасьці машыны. Ты робіш выгляд, што вось-вось купіш той самаезд, а яна – што ў гэта верыць. Насамрэч жа ты ўжо даўна забыўся, у якой машыне сядзіш і дзе наагул знаходзісься. Вось яна, моц жаночае прыгажосьці! Таму, шаноўныя арга-нізатары, у мяне ёсьць невялікая прапанова: абсталюйце, калі ласка, у наступным годзе стэнды чым-небудзь меней звабным. Хочацца ўсё ж і на машыны паглядзець...


*Ігар Варашкевіч ля новага "Passat'a"*


*Новая "казурка" ад "Volkswagen"*


*Тая самая "Testarossa". І што яны ў ёй знайшлі?*

Выснова ж з усяго сказанага простая, як Божы дзень: запасайся, шаноўны суайчыньнік, панчохамі, каб было куды адкладаць грошы на шыкоўны "Volkswagen", "Chevrolet" ці "Daewoo". А сама выстава мне спадабалася. Я нават яшчэ раз схадзіў. Ужо проста так – для душы... ■



СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • травень 2001



*Здымкі Тацьцяны Конюх*

# "Зялёны сьветапогляд" Максіма Капрана



*Шчыра кажучы, з Максімам Капранам, адным з каардынатараў грамадзянскай ініцыятывы "ЭкаІнформ", я пазнаёміўся адмыслова для таго, каб зрабіць гэтае вось інтэрвію. І не пашкадаваў: чалавек ён надзвычай неардынарны, а таму й размова апынулася доўгай і цікавай. А паколькі сустрэліся мы якраз напярэдадні 15-й гадавіны катастрофы на ЧАЭС, то, натуральна, менавіта гэтай праблеме і была прысьвечаная большая частка гутаркі.*

***– Максім, як даўно ты пачаў займацца экалягічнымі пытаньнямі? Чым гэта тлумачыцца – адмысловай адукацыяй, выхаваньнем?..***

– Адмысловае адукацыі ў мяне няма. Дый будучыню сваю напачатку я бачыў крыху ў іншым сьвятле. Яшчэ ў школе, у другой клясе, маці запісала мяне ў гурток дэкаратыўна-мастацкай творчасьці мастачкі Алены Лось. Потым, таксама "з падачы" маці, я пачаў займацца ў дзіцячай мастацкай школцы. Прыдалося й навучаньне ў школьным НВК, таксама з мастацкім ухілам. Таму ў той час я больш-менш сур'ёзна рыхтаваўся да мастацка-дызайнэрскай працы. Займаўся графікай, меў схільнасьць да кніжных ілюстрацыяў, афармленьня, паліграфіі. Натуральна, меркаваў паступаць у Акадэмію мастацтваў. Аднак ня ўсё было так проста... Відаць, не хапіла мне напрацаванай базы. Перад уступнымі іспытамі ў Акадэмію абітурыенты прыносілі свае працы на адмысловую ацэначную камісію, дзе атрымлівалі добрую параду, у гэтым годзе ім паступаць ці яшчэ папрацаваць. У той дзень, калі я прынёс свае сьціплыя стосы папераў, прыйшлі сапраўды гэткія монстры й фанаты, што я й сам пабачыў: ранавата мне. Тады ж добрыя людзі мне параілі: "Ідзі, – кажуць, – хлопча, на архітэктуру. Маляваць і там будзеш". Гэтак я паступіў у БДПА, на спэцыялізацыю "Ляншафтавая архітэктура". Стасункі з прыродаю цікавілі...

***– Прабач, але мне здаецца, што архітэктура й экалёгія – рэчы крыху розныя. Адкуль жа раптам такая пераарыентацыя?***

– Справа ў тым, што навучаньне ў мяне расьцягнулася "да ўпору". Сам я 70-га году нараджэньня. Дык вось, недзе ў 1995 годзе займацца адным і тым жа мне, шчыра кажучы, надакучыла. Да таго ж, калі я давучыўся да старэйшых курсаў, спэцыяльнасьць "Ляншафтавая архітэктура" скасавалі. Тады й вырашыў я азірнуцца наўкола, паглядзець, што робіцца ў грамадзтве, у дзяржаве і ў сьвеце. І якраз у 95-м абвясьцілі набор у міжнародную школу журналістыкі пры Мас-мэдыя Цэнтры, на спэцыяльнасьць "Журналістыка і сучасныя інфармацыйныя тэхналёгіі". Мяне зацікавіла гэтая фармулёўка, дый аб'яўка была добра аформленая... Паўгоду правучыўся. Школа гэтая вельмі хутка зачынілася, бо фундацыя Сораса зьмяніла праект. Аднак там пазнаёміўся я з Валерам Лабко, які займаўся экалягічнымі праектамі – разьвіцьцём гэтага кутку трэцяга сэктару Беларусі. Зрэшты, экалягічнымі пытаньнямі я й раней цікавіўся. Скажам так, быў на іх скіраваны станоўча...

***– Цікава...***

– Рэч у тым, што вельмі моцны ўплыў на мяне аказаў сам факт Чарнобылю. Я гэта ўспрыняў сур'ёзна і па-філязофску. Асабліва таму, што якраз у 86-м годзе, у постчарнобыльскі тыдзень, калі спачатку было сьпякотна, пасьля пайшлі дажджы, а мы з аднаклясьнікамі несьлі "пост нумар адзін" на пляцы Перамогі. І гэтыя дожджычкі чарнобыльскія я бачыў сам. А потым – першамайскія дэманстрацыі... Моцнае было ўражаньне. ▶

Яшчэ й таму, што бацькі ў мяне геафізыкі, і яны валодалі інфармацыяй. З суседзяў ніхто ня ведаў, што рэальна адбываецца: па тэлевізіі распавядалі, што ўсё а'кей. Але ў тых людзей, якія маюць прыборы, ёсьць яшчэ й тэлефоны, радыёстанцыі. І ўсе тыя геафізычныя партыі, што раскіданыя па тэрыторыі краіны, былі ў курсе радыяцыйнага стану. І, вядома, дзяліліся інфармацыяй міжсобку. Маці, натуральна, была ў трансе, толькі й думала, куды б зьехаць разам зь дзецьмі. Так што я пра Чарнобыль сёе-тое ведаў адразу ж. І крыху пра тое, чым гэта можа абярнуцца пасьля. Таму стаў чытаць адпаведную літаратуру. У школе журналістыкі Валер Лабко пазнаёміў мяне з грамадзкімі ініцыятывамі ў гэтым сэктары. Наагул, грамадзкімі справамі я цікавіўся і раней: у ЗБСе быў ад пачатку, дый у іншых студэнцкіх праектах удзельнічаў. Так што цікавасьць да экалягічных пытаньняў, схільнасьць да дызайнэрскай працы і пэўныя веды ў га-ліне журналістыкі спалучыліся. Разам з Аляксандрам Чырковым, Элай Мацьвіенка, пры добрай падтрымцы Валера Лабко мы задумалі рабіць экалягічны бюлетэнь. Тады мы называліся "Інфармацыйная група "Школа-2" (у памяць пра школу журналістыкі). Паціху-патроху, усё гэта й вылілася ў інтэгральны праект "ЭкаІнформ". Сталі два разы на месяц выпускаць электронны бюлетэнь, друкавалі інфармацыйны дайджэст, завялі www-старонку. Напрыканцы 96-га году мы дасталі грант ад ISAR. Першы "ЭкаІнформ" пражыў да сярэдзіны 97-га, покуль ня скончыліся сродкі. Вельмі зьдзіўлены, але й цяпер хто-ніхто часам згадвае той "ЭкаІнформ" добрым словам, бо нічога падобнага тады не рабілася.

***– Што сабою ўяўляе сучасны экалягічны рух на Беларусі і якое месца займае ў ім "ЭкаІнформ"?***

– Я мяркую, што нашае месца не такое ўжо вялікае, але – прыкметнае. У інфармацыйным пляне мы займаем сур'ёзную нішу. Штотыдня выходзіць электронны бюлетэнь. Ён на Беларусі адзіны. Хаця ня трэба думаць, што ён выходзіў зь 96-га году і да гэтага часу няспынна. Не, вельмі нават спынна... А што датычыцца экалягічнага руху, дык яго, як такога, здаецца, і няма – вядома, калі разглядаць рух як нейкую плынь у адзіным кірунку, з каардынаванымі мэтамі і дзеяньнямі па дасягненьні гэтых мэтаў. Ёсьць больш-менш адрозныя арга-нізацыі, ініцыятывы, асобныя людзі... Наагул, сам тэрмін "экалёгія" ў гэтым кантэксьце недакладны. Што маецца на ўвазе: экалёгія як навука альбо як нейкі "зялёны сьветапогляд" – тое, што ў ангельскай мове завецца "environmental"? Вось я не займаюся "экалёгіяй" як навукай. А паводле нашае базы, недзе каля чатырох з паловай сотняў арганізацыяў, ініцыятываў і асобных актывістаў на Беларусі маюць дачыненьне да "зялёных" справаў. І гэта толькі тыя, інфармацыя пра каго да нас дайшла. А рух – калі размаўляць у гэтых тэрмінах – хутчэй "броўнавы".

***– Сёньня даводзіцца чуць розныя меркаваньні пра Чарнобыль. Адныя кажуць, што гэта надзвычай небясьпечна, іншыя прытрымліваюцца пазыцыі: "Жывем жа, і нічога". Пракамэнтуй, калі ласка.***

– Так, апошняе меркаваньне даволі шырока распаўсюджанае. Праблема, я лічу, палягае ў недахопе інфармацыі і ў тым, што на тле гэтага недахопу як крытычныя, так і супэраптымістычныя заўвагі выглядаюць больш-менш аргумэнтаванымі маналёгамі, якія мала абмяркоўваюцца, а яшчэ меней зь іх нешта вырашае. Нехта сьцьвярджае, што Чарнобыль – гэта катастрофа надоўга, і лепей ня стане ні ў бліжэйшым, ні ў сярэднім часе. Іхныя апанэнты адказваюць: ды ну, гэта ўсё прамінула, радыяцыя тая перагніла даўно... Сапраўды, жывем жа. Але як жывем? Не хацелася б зараз пераходзіць на лічбы, але тое, што нейкі элемэнт мае пэўны пэрыяд паўраспаду, зусім ня значыць, што праз гэты тэрмін ён зьнікне, "згніе". Не, яго проста стане ўдвая меней за 1986 год. Калі браць той жа плютоні, то для ягонага паўраспаду патрэбныя дзясяткі тысяч год. А распадаецца ён на больш мабільны і распушчальны ў вадзе амэрыцы. І гэтыя штучныя элемэнты, якія ў прыродзе не існавалі, нікуды проста так ня зьнікнуць. Так што ўсё вельмі надоўга.





СТУДЭНЦКАЯ ДУМКА • травень 2001
Культ асобы

***– І што ж у такіх варунках рабіць нам, простым сьмяротным?***

– Чарнобыль дадаў вялікую праблему – праблему здароўя нашага грамадзтва. І зь ёю магчыма змагацца толькі веданьнем тэхнічных нюансаў: якім чынам можна паменшыць, мінімізаваць наступствы. У нас жа да гэтага часу, праз 15 год пасьля аварыі, у інфармацыйных матэрыялах сустракаецца тэрмін "ліквідацыя наступстваў". На мой погляд, гэта сьведчыць пра тое, што людзі імкнуцца забыць. Сапраўды, ведаць – страшна. Падсьвядомае імкненьне нейкім чынам зачыніць тэму й вядзе да таго, што зьяўляюцца гэткія тэрміны. Насамрэч наступствы немагчыма зьліквідаваць – іх можна толькі паменшыць. І адпаведныя тэхналёгіі распрацаваныя даволі даўна. Напрыклад, у брашурах, якія мы распаўсюджвалі ў 1998 годзе на міжнародным маршы супраць будаваньня АЭС на Беларусі, гэтыя тэхналягічныя рэчы прапісаныя вельмі падрабязна. І калі прытрымлівацца тых элемэнтарных парадаў – скажам, піць не малако, а вяршкі з таго малака, разьведзеныя вадой, якія ўтрымліваюць значна меней радыёнуклідаў, – гэта ўжо ёсьць пэўнай гарантыяй таго, што і табе, і тваім нашчадкам удасца пазьбегнуць пэўных хваробаў. Гэта нават статыстычна даведзена. У неадселеных вёсках зоны з роўнем радыяцыі ад 5 да 15 кюры тыя, хто да гэтага ставіцца больш-менш пільна (а гэта звычайна людзі адукаваныя – настаўнікі, спэцыялісты), маюць меней праблемаў са здароўем.

***– Атрымліваецца, самае каштоўнае сёньня – інфармацыя?***

– Менавіта так. І да таго ж – сьвядомыя дзеяньні людзей, імкненьне зрабіць лепей сабе самім.

***– У чым, на тваю думку, выяўляецца той падсьвядомы страх, пра які ты казаў?***

– Калі я казаў пра страх, то меў на ўвеце як бы падмурак (амаль заўжды неўсьведамляемы) пазыцыі тых, хто адмаўляе сур'ёзнасьць Чарнобылю. Ёсьць і больш яркія чыньнікі. Асабліва калі справа датычыцца дзеяньняў нашых уладаў, чыноўнікаў. Чаму не адселеныя жыхары з тых земляў, дзе фон складае ад 5 да 15 кюры? Таму што тады трэба ў гэта ўкласьці шалёныя сродкі зь дзяржаўнага бюджэту. А праз тое, што ў нас сёньня эканоміка сацыялістычная, ды яшчэ зь нечалавечым тварам, нашая дзяржава за ўсё бярэцца і нічога ня робіць. Яна і сама ня можа прафінансаваць адсяленьне, і не дазваляе людзям самім ратавацца. Чыстых земляў жа ў нас хапае, каб можна было там фэрмэрстваваць ці бізнэсам заняцца... Не! Трэба ўмацоўваць тыя калгасы ды саўгасы – укладаць грошы ў тое, каб людзей там замацаваць! Гэта нагадвае прыгонны лад. Ну які сэнс трымаць людзей, калі ім там цяжка жыць? Я лічу, наагул там лепей ня жыць. Хай будзе неруш, хай дзікія зьвяры разводзяцца. Без чалавека. Але тут таксама, дарэчы, шмат пытаньняў: нам распавядаюць, што жывёла ў Прыпяцкім запаведніку размнажаецца вельмі файна, усё расьце і буяе, зубры тыя ж плодзяцца. А вось ва ўкраінцаў апошні зубр колькі месяцаў таму сканаў...

Чалавек жа, якімі б ён парадамі ні карыстаўся, усё адно дыхае пылам, што ўздымаецца ўлетку, ці дымам, калі гараць тарфянікі. А ў ім жа – той самы плютоні. Зловіш "гарачую часьцінку" – і рак забясьпечаны.

***– Адзін мой знаёмец дзеля цікавасьці склаў мапу разьмеркаваньня сваіх аднакурсьнікаў па заканчэньні ВНУ. Пасьля наклаў яе на мапу радыяцыйнага забруджаньня – і яны амаль што супалі. Як ты ставісься да практыкі разьмеркаваньня ў забруджаныя мясцовасьці?***

– Гэта проста злачынства!

***– А чаму ж вы сваёй уладнай інфармацыйнай рукой не перапыніце гэтае злачынства?***

– Давай толькі ня будзем весьці размоваў пра ўладную інфармацыйную руку. Прэса як чацьвертая ўлада – гэта рамантычны вобраз. Насамрэч улада – гэта ўлада, а прэса – гэта прэса. Трэба толькі, каб кожны займаўся сваімі справамі.



***– Распавядзі, калі ласка, больш падрабязна пра дзейнасьць "ЭкаІнформу".***

– Зараз мы ажыцьцяўляем супольны беларуска-польскі праект з кракаўскім выдавецтвам "Zielone Brygady". Праект тычыцца абмену экалягічнай інфармацыяй. Выпускаецца штомесяцавы часапіс "Зялёны край", а апэратыўная інфармацыя ўваходзіць у штотыднёвы бюлетэнь, які распаўсюджваецца па электроннай пошце. У параўнаньні зь бюлетэнем часапіс атрымліваецца канцэптуальна-расповедны. Ён, хаця, канешне, і таненькі, але даволі цікавы, аб чым сведчаць чытачы.

Адна з частак нашага праекту – інтэрнэтаўскі сэрвэр ***green.bn.by***, і ўлетку мы будзем яго разьвіваць далей. Спадзяюся, калі-небудзь ён вырасьце ў беларускі "зялёны" партал. Мяркуем, што ён будзе насычаны апэратыўнай навіннай інфармацыяй, сур'ёзнымі навуковымі зьвесткамі, аглядамі дзейнасьці нашага грамадзкага зялёнага сэктару, дзейнасьці дзяржаўных установаў у гэтай жа сфэры. Хацелася б, каб там можна было ладзіць дыскусіі і зьмяшчаць інфармацыю бізнэсовага характару – скажам, пра нейкія экалягічныя тэхналёгіі. Гэтыя задумкі будуць ажыцьцяўляцца ўжо ў гэтым годзе. І тут нам патрэбная дапамога – шукаем праграмоўцоў, вэб-дызайнэраў... Спа-дзяюся, сярод чытачоў "CD" ёсьць такія спэцыялісты.

***– А чым яшчэ, апроч інфармацыйнай дзейнасьці, вы займаецеся?***

– Натуральна, мы бярэм удзел у разнастайных грамадзкіх акцыях. Напрыклад, у 1998 годзе разам з рухам "Экасупраціў" (цяпер "EcoRiot") быў арганізаваны й праведзены міжнародны марш па Магілеўшчыне – па месцах, дзе плянуецца пабудаваць першую беларускую АЭС. У той час на Беларусі пачало актыўна абмяркоўвацца пытаньне, будаваць АЭС ці не. Спрачаліся акадэмікі, адбываліся "разборкі" паміж рознымі групамі ўплыву, аднак усё выглядала нейкім закрытым працэсам, нейкімі бойкамі пад дываном. Ва ўсіх тых абмеркаваньнях не было чутно "голасу народу", не было бачна грамадзкасьці. А ў нас ужо быў пэўны досьвед: у 97-м годзе мы бралі ўдзел у блякадзе Тэмэлінскай АЭС у Чэхіі. Менавіта таму мы й заняліся гэтым маршам. Акцыя прайшла няблага, атрымала рэзананс.

***– Але чаму вы выступаеце супраць будаўніцтва АЭС? Шмат хто сьцьвярджае, што атамная энэргетыка – самая бясьпечная й эканомная...***

– Тыя, хто гэтак кажа, папросту або хлусяць, або не валодаюць інфармацыяй. Калі гэтыя рэчы датычацца здароўя, жыцьця, і ня толькі чалавечага, – тут трэба сыходзіць з канцэпцыі абсалютнае бясьпекі. Усё, што ня можа гарантаваць бясьпеку і ў аддаленай пэрспэктыве, лічыцца небясьпечным. І ў гэтай сытуацыі АЭС значна небясьпечнейшыя за любыя іншыя аб'екты.

З другога боку, чыста эканамічна Беларусь будаваць АЭС зараз ня можа. Гэта вымагае надта вялікіх грошай. Альтэрнатыўная энэргетыка таньнейшая. Наагул, разьвіцьцё атамнае энэргетыкі згортваецца па ўсім сьвеце. Атамная энэргетыка ўжо памерла. Дый нарадзілася яна ўсяго толькі як пабочны прадукт вытворчасьці бомбы. Той самы плютоні напрацоўваецца ў рэактарах, паралельна ж наладзілі адвядзеньне цяпла, каб круціць турбіны. Сама ж па сабе атамная энэргетыка неэканамічная – гэта толькі прадукт дзейнасьці вайсковага комплексу. Ва ўсім сьвеце АЭС жывуць зь дзяржаўных датацыяў. Да таго ж, вырашэньне пытаньня адкідаў вымагае вялікіх выдаткаў... Адмысловыя прыёмнікі радыёактыўных матэрыялаў, якія месьцяцца на тэрыторыях саміх АЭС, альбо ўжо запоўненыя, альбо "на падыходзе". Перапрацоўка ж паліва нават на Захадзе заключаецца ў тым, што яно ашклоўваецца й складаецца на захаваньне, на тысячы год. Гэта тое самае, што акуратненька запакоўваць сьмецьце ды складаць яго ў кут. Хто з тым сьмецьцем будзе ў рэшце рэшт разьбірацца?

Пытаньне будаўніцтва АЭС на Беларусі прасоўваюць у прэсе тыя, хто крэўна ў гэтым зацікаўлены: найперш супрацоўнікі Інстытуту энэргетыкі, які месьціцца ў Соснах. Людзям проста трэба мець кавалак хлеба, а да таго ж хочацца на хлеб і масла намазаць, каўбаскі пакласьці... Паводле падлікаў экспэртаў, энэргетычных магутнасьцяў, якія зараз ёсьць на Беларусі, хапае "пад завязку". Нашыя ТЭЦ і ГРЭС нават не загружаныя на поў-ную моц.

***– Скажы, Максім, а як тваё блізкія ставяцца да тваёй экалягічнай дзейнасьці?***

– Тут мне пашанцавала. Сям'я ў мяне – ну, ідэальная. Я б нават сказаў, экалягічная. У нас з жонкай вельмі падобныя інтарэсы, падобнае стаўленьне да навакольнага асяродзьдзя. І ў мяне, і ў жонкі – "зялёны" сьветапогляд. У яе нават больш радыкальны: яна цалкам адкідае антрапацэнтрызм, ставіць чалавека на адзін ровень з усімі астатнімі жывымі істотамі. Я паважаю ейную пазыцыю, і гэтак жа цярпіма яна ставіцца і да пэўных маіх заваротаў. Я дапамагаю ёй выпускаць друкаванае выданьне: часапіс "Зялёны край" – на ейных плячах. А нашая малая дачка зараз вучыцца хадзіць і ўжо выяўляе свае прыродныя інстынкты – ганяе ката. Пачынаецца здаровая экаля-гічная канкурэнцыя на адной асобна ўзятай тэрыторыі...

***– Вялікі дзякуй за зьмястоўную размову!***

***Гутарыў Ісоппи***







# Тэатар ля Сьвіцязі

## Візытоўка

*Дзіцячы тэатар "Рондстудыя" быў створаны ў 1983 годзе рэжысэрам, біёлягам паводле першай адукацыі **Ірынай Васільеўнай Маркавай**. За час ягонага існаваньня было сыграна 58 спэктакляў. Асноўная тэма – духоўнае, маральнае ўдасканаленьне асобы. Калектыў браў удзел у буйных міжнародных фэстах на Беларусі, у Расеі, Швайцарыі, Галяндыі, Нямеччыне, Швэцыі. Цікавы тым, што адным зь першых узьняў праблему экалягічнае нестабільнасьці ў рэспубліцы. У 1995-м кіраўнікам і ўдзельнікам тэатру ўдалося ажыцьцявіць сваю даўнюю задуму пра стварэньне дзіцячай аздараўленчай базы. Цяпер дзеці з экатэатру "Рондстудыя" ўсе школьныя вакацыі праводзяць на возеры Сьвіцязь.*

...Жанчына абдымае зямны шар. Над ейнай галавою – птушкі, ля ног – кветкі і трава. А высока ў небе, над лесам – вясёлка... Твар жанчыны маркотны. Яна абдымае плянэту, нібы нованароджанае дзіця, ведаючы, што не мінуць яму гора, няшчасьця... Зямля стамілася ад чалавечае дурноты, бязьлітаснасьці, гвалту. Зямля просіць спакою...

***– Ірына Васільеўна, мне – 18 год. Я памятаю, як пачынаўся ваш тэатар. Паверце, час пошукаў і сьмелых экспэрымэнтаў мінуў. За што вы змагаецеся? За здаровы лад жыцьця? Гэта неактуальна...***

– Душа баліць за прыроду. Рэсурсы ж плянэты ня вечныя...

***– На Ваш погляд, мы безадказныя? А можа, больш разважлівыя, чымся вы, бацькі-ідэалісты? Вы ўсё лётаеце ў аблоках, мы ж ходзім па зямлі. І гэтая зямля належыць нам. Так, мы засьмецілі яе, але чалавек – гаспадар прыроды, у рэшце рэшт.***

– Прырода не дарує неахайнасьці. Адным зь першых экалягічных спэктакляў, якія мы павезьлі ў Чалябінск і гралі там у знакамітых тэатральных сутарэньнях "Манэкен", быў "Маленькі этуд". Другі спэктакль пра Чарнобыльскую катастрофу – у сымбалях. Гэта спроба разабрацца ў трагедыі: што адбываецца, чаму мы нішчым плянэту, самі сябе? У 1995 годзе, пасьля таго як спэктакль "пабачыў сьвет", наш тэатар унесьлі ў каталёг экалягічных арганізацыяў. З усяго сьвету стала прыходзіць інфармацыя з экагазэтаў, часопісаў. Менавіта тады "Рондстудыя" й сталася экатэатрам. Месцам нашага экалягічнага пасяленьня мы абралі возера Сьвіцязь.


Дзеці з "Рондстудыі"

***– Прыгожае слова – экалёгія. Але ж маладым у наш час важней самасьцьвердзіцца. Навошта ехаць у лес, калі можна ўтульна, культурна жыць у горадзе?***

– Перада мною стаяў выбар: альбо заплюшчыць вочы на тое, што на Беларусі існуе экалягічная праблема, альбо закасаць рукавы і працаваць. Я абрала другое. Сьвіцязь – найчысьцейшае возера зь лекавымі крыніцамі, там ладзяцца зьлёты, сэмінары для ўсіх тых, хто зацікаўлены ў экалягічнай і ду-

# Нябесныя бегі


Яблыневы сад ля аздараўленчае базы "Гармонія"

хоўнай чысьціні нашае плянэты. Пасьля Чарнобылю прыйшло ўсьведамленьне: дзецям трэба распавядаць пра тое, як захоўваць сябе ў гэтым сьвеце, быць здаровымі маральна й фізычна. Адзіны магчымы сродак, каб захаваць здароўе нашых дзяцей, гэта зразумець, што мы ў поўнай меры адказныя за кожнае дзіця, за нашыя сем'і. Бацькам цяпер нялёгка: яны занятыя працай, сваімі праблемамі. Вы, моладзь, часта аддадзеныя самі сабе. Трэба мяняць стан рэчаў. Толькі ўсе разам мы можам зьберагчы нашую зямлю ад разбурэньня.

***– Час на подзьвігі мінуў, што ні робіцца – усё да лепшага. Навошта "рваць жылы" і ехаць на край сьвету, каб нечага дасягнуць?***

– Каб у цябе была крэпкая сям'я і здаровыя дзеці, патрэбнае разуменьне таго, што адбываецца на нашай плянэце. Ад нашай безадказнасьці гінуць лясы, рэкі, жывёла. Мы й самі церпім. У 1995 годзе, калі мы зьехалі на Сьвіцязь, гэтае месца мы абралі не выпадкова. Яно разьмешчанае на Наваградзкім узвышшы і вельмі падыходзіць для навучаньня й аздараўленьня дзяцей. Можна сказаць, мы першыя пасяленцы на Сьвіцязі. Намі распрацаваная і ажыцьцяўляецца цікавая праграма: мы распавядаем дзецям пра пэрмакультуру – навуку пра тое, як жыць у згодзе з прыродай. Навучаем правільнаму здароваму харчаваньню, мастацтву лекаваньня травамі. Дзеці займаюцца творчасьцю: лепяць з гліны, малююць, танчаць. Хутар, дзе мы жывем у драўляным дамку і дзе месьціцца нашая аздараўленчая база "Гармонія", – месца гістарычнае. Гэта радзіма Адама Міцкевіча. Да 200-годзьдзя з дня нараджэньня паэта Рондстудыйцы паказалі спэктакль па паэме Міцкевіча проста на беразе возера.

***– Усё гэта вельмі добра. Толькі жыць тут, на хутары, далёка ад гораду, па-мойму, няма чаго. Зразумейце, у нас, маладых, іншыя каштоўнасьці. Мы хочам атрымаць усё адразу, і як паболей. Прэстыжна мець добрую працу, быць багатым. Жыцьцё даецца адзін раз, і чалавек заўсёды выбірае, дзе лепей.***

– Выхаваньне дзіцяці пачынаецца яшчэ да ягонага нараджэньня. Мы, бацькі, адказныя за вас, пакаленьне сваіх дзяцей. Ёсьць задумка: на беразе Сьвіцязі адчыніць "Школу радасьці", альтэрнатыўную школу разьвіцьця асобы дзіцяці. Мы б стварылі там міні-бібліятэку, міні-фэрму, майстэрні. Ведаеш, я вельмі хачу, каб дзеці нашыя расьлі працавітымі, каб яны атрымлівалі радасьць ад працы, працы на зямлі...

***– Кажуць, вялікія жаданьні заўсёды збываюцца. Няхай жа Вашае казка-жаданьне пра "Школу радасьці" стане рэчаіснасьцю!***

***Запісала
Марыяна Забродзкая***

*P.S. Кантактавы тэлефон "Рондстудыі": 252-00-53.*


Дамок, дзе месьціцца "Гармонія"





# Сідзічка




Вітаўт Мартыненка

## Uz Jsme Doma, "Jaro, peklo, podzim, zima" Unidjazz, 1996

*Міжволі прыходзяць мне на памяць змрочныя часіны таталітарнага застою, калі музычныя навінкі з усяго сьвету былі для нашых мэляманаў недасяжнаю марай, затое сякія-такія ўзоры гукатворчасьці ад нашых суседзяў (Польшча, Чэхія, Вугоршчына, Баўгарыя) былі на слыху. З таго часу, як адчыніліся межы, сытуацыя зьмянілася настолькі, што... усё па-ранейшаму! Нібыта ў элемэнта сілкаваньня плюс памянялі на мінус, і наадварот...*

Дык вось, уся гэтая прадмова для таго, каб растлумачыць, чаму так позна трапляе на нашыя бачыны гэтае чэскае выданьне. Калі б "БМAgroup" у красавіку 2001 году не зарганізавала на Беларусі канцэрты лідэраў чэскай альтэрнатыўнай музыкі ("Uz Jsme Doma", "Echt!", "MCH Band"), мы б і далей не здагадваліся, якое зерне прарасло ў нас пад бокам. Дый адкуль? "MTV Russia" пра такое нават ня чула, а ўвесь "айчынны" FM-эфір акупаваны расейскай папсой.

Праўда, для тых, хто мае магчымасьць рэгулярна глядзець "RTL" альбо "VIVA", чытаць часопісы "Rolling Stone" ды "Option", чэскія імёны – зьява даўно звыклая. Але нядзіўна, што прэм'ерны дэсант чэскіх рок-гігантаў на Беларусь гэтак уразіў нашу прэсу.

"Менскі канцэрт у рамах туру "Чэская музыка на шляху" эмацыйна забіў усе папярэднія музычныя акцыі", – пісала 27 красавіка "Беларуская маладзёжная". А адмысловы штотыднёвік для фільмаманаў "Кінатыдзень Менску" ("Кинонеделя Минска") 18 траўня выдаў рэпартаж "Кінематаграфічны фэномэн чэскага року". Арыгінальнасьць згаданага канцэрту яшчэ і ў тым, што на ім была разгорнутая ўнікальная выстава-продаж чэскіх CD і MC, якіх жыўцом раней на Беларусі ніхто ня бачыў. Анатаваная кружэлка – з тае ж абоймы. А выбраў я гурт, які найбольш уразіў мяне на канцэрце. Такой музыкі ніхто ня грае ні ў нас, ні ў найбліжэйшых ваколіцах: уявіце сабе нешта неверагоднае з гэткім жа незвычайным сінкрэтычным назовам "сымфа-панк".

У нашым грамадзтве склалася думка, што зазвычай панк-рок граюць тыя музыкі, якія больш ні на што ня здольныя. А тым часам у цывілізаваным сьвеце нават просты традыцыйны панк-рок ня кожны рызыкне асядлаць якраз праз ягоную простасьць. Панкі з "Uz Jsme Doma" падышлі да гэтай музыкі як профі, закансэрвавалі ўсю ейную энэргетыку, разгарнулі маштабныя кампазыцыйныя палотны.

Зрэшты, за шаснаццаць гадоў існаваньня калектыву (1985-2001), пяць зь якіх трэба адкінуць на спэцыфічныя для творчасьці часы таталітарнага камуністычнага раю, гурт выдаў дзесяць вельмі разнастайных альбомаў – "Niemilovany svet", 1991; "An Unloved World", 1994; "Live in Vancouver", 1999; "Usi", 2000 і інш., – сярод якіх асаблівым шармам адрозьніваецца акурат гэтае выданьне фірмы "Unidjazz".

Так-так, джазам тут патыхае, але такі джаз я адрасаваў бы якраз аматарам року. "Jaro, peklo, podzim, zima" ("Вясна, пекла, восень, зіма") – гэта саўндтрэк да фільма Вацлава Кучэры пра славутага мастака чэскага поп-арту Марціна Вэлішака (якога, дарэчы, называюць шостым, маўклівым музыкам гурта). Астатнія пяцёра – гітарыст Міраслаў Ванэк, саксафаніст і вакаліст Йіндра Долянскі, гітарыст і вакаліст Ромэк Ганзьлік, басіст і вакаліст Ян Цэрга і бубнач-вакаліст Мілан Новы. Інструмэнт жа Марціна – пэндзаль, якім ён аздабляў альбомы калектыву.

На жаль, да нас яшчэ не дайшоў фільм "Jaro, peklo, podzim, zima", але чатыры карціны Вэлішака ўпрыгожваюць вокладку гэтага дыску. А музыка ўяўляе сабой своеасаблівыя чэскія "Карцінкі з выставы"... поп-арту ("Веснавы шпацыр", "Першыя малюнкі", "Мэтафізык", "Свара", "Зімовы шпацыр" і г. д.).






# ЦЯПЕР "CD" МОЖНА ЗАМОВІЦЬ ПРАЗ ПОШТУ!

## Каб падпісацца на "CD", трэба:

- запоўніць абанэмэнт (можна атрымаць у любым паштовым аддзяленьні ці ў рэдакцыі часопісу);
- паштовым пераводам пералічыць адпаведную суму на разьліковы рахунак рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка":

***Разьліковы рахунак: 3012210040010 Сталічнае аддзяленьне АКБ "БелБізнэсБанк", г.Менск, код 112.***

- запоўнены абанэмэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе даслаць па пошце ў рэдакцыю: **Менск-30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".**
- Не забывацца штомесяц вымаць з паштовай скрыні "CD".

## УМОВЫ:

- **Дашлі** запоўнены абанемэнт разам з квітанцыяй аб паштовым пераводзе **да 10-га любога месяца,** і атрымаеш CD ужо **ў наступным месяцы.**
- Падпісацца можна на адзін, тры, шэсьць месяцаў.
- Кошт падпіскі на 1 месяц – 240 рублёў.

## УНІКАЛЬНАЯ ПРАПАНОВА:

- Калі ты падпішасься сам, а таксама падпішаш 5 сваіх сяброў – зьніжка 50% (дзеля гэтага ў адной капэрце трэба даслаць 6 запоўненых абанэмэнтаў і адпаведную квітанцыю). Не забудзься пазначыць сваё імя. Краіна павінна ведаць сваіх герояў.

Цяпер на "CD" можна падпісацца **штомесяц!**

***АБАНЭМЭНТЫ Й КВІТАНЦЫІ ДАСЫЛАЙЦЕ НА АДРЭСУ:***

Менск - 30, 220030, а/с 90, рэдакцыі часопісу "Студэнцкая думка".